**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 4.40, 21.35, 16.55;
Віцебск — 4.22, 21.33, 17.11;
Магілёў — 4.30, 21.24, 16.54;
Гомель — 4.35, 21.14, 16.39;
Гродна — 4.56, 21. 50, 16.54;
Брэст — 5.07, 21.41, 16.34.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 8 чэрвеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Сымона, Мікіты, Сцяпана, Івана;
Паўліны, Норберта.

# ЗВЯЗДА

6 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
субота, № 113 (21891)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ЗАМЕЖНЫХ ТУРЫСТАЎ ЁСЦЬ КАМУ ПРЫНЯЦЬ НА БЕЛАРУСІ

У апошнія гады шляхі замежных турыстаў усё радзей пралягаюць праз Беларусь. Калі ў 1989 годзе рэспубліку наведалі 130 тысяч гасцей з-за рубяжа, то летась— толькі 30 тысяч. І справа не толькі ў складанай палітычнай сітуацыі, якая ў многіх за мяжой адбівае ахвоту падарожнічаць па прасторах былога СССР. Пасля распаду манапольнай структуры саюзнага аб'яднання «Інтурыст» утварыўся вакуум у гэтай вялікай і надзвычай выгаднай сферы прадпрымальніцтва. Праўда, эканамічная свабода нарадзіла дзесяткі дробных турыстычных фірм, але магчымасці іх, як правіла, абмяжоўваюцца арганізацыяй так званых бізнестураў у Польшчу і Турцыю, дзе нашым суграмадзянам часам не забяспечваюць нават мінімальных бытавых зручнасцей. Што ўжо казаць аб прыёме заходніх турыстаў, выхаваных на стандартах сервісу, прыякія мы можам толькі марыць. Прапанаваць хоць нешта падобнае на Беларусі маладыя дробныя фірмы, зразумела, не могуць і не змогуць яшчэ доўгі час.

І ўсё ж паўнакроўны замежны турызм для нашай маладой дзяржавы — не такая ўжо няпэўная перспектыва, як можа здацца на першы погляд. Толькі што ў рэспубліцы пачало дзейнічаць новае акцыянернае таварыства «Белінтурыст». Свае намаганні ў новай фірме аб'ядналі сталічныя гасцініцы «Планета» і «Юбілейная», Мінскбізнесбанк, Беларускае ўпраўленне грамадзянскай авіяцыі, Беларуская чыгунка, фірма «Брэстінтур» і іншыя заснавальнікі, напрамую звязаныя са сферай абслугоўвання замежных турыстаў.

Вельмі магчыма, што ўжо ў бліжэйшы час паток турыстаў з Захаду (а значыць, і паток валюты) на Беларусь значна вырасце. Тым больш, што новае акцыянернае таварыства збіраецца прапанаваць шэраг новых спецыялізаваных тураў па Беларусі. За ўмераную па мерках Захаду суму замежны госць можа папаляваць у Белавежскай пушчы, парыбачыць на Нарачы, пагуляць з майстрамі ў футбол і хакей і нават пакіраваць рэліктавым для Захаду паравозам, з якім наша чыгунка развіталася зусім нядаўна і яшчэ не паспела здаць у металалом.

Шкада, што новая фірма выбрала назву, якую толькі ўмоўна можна назваць беларускай. «Чаму так здарылася?»—спытаў я на прэс-канферэнцыі ў кіраўнікоў таварыства. Прычына аказалася далёкай ад нацыянальнага нігілізму:

— На заходні рынак цяжка прабіцца навічкам, — патрэбны вялікія сродкі на рэкламу. А «Інтурыст» — фірма ў свеце вядомая, з неблагой рэпутацыяй. На адным гэтым мы зэканомім мільёны.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## Народ сёлета палюбіў зямлю. Значыць, не прападзём

Верагодна, статыстыка набліжаецца-такі да жыцця і пачынае адлюстроўваць яго літаральна. Безумоўна, гэта прыемна. Адзінае што — жыццё дорыць мала, зусім мала радасных момантаў. Калі вы дзень блукалі па магазінах у пошуках мяса, то Дзяржкамстат гэта прыкмеціў і адлюстраваў: у першым квартале пастаўкі мяса і мясапрадуктаў скараціліся на 39 працэнтаў, а малака і малочных прадуктаў — на 44 (ледзь не напалавіну).

Канешне, трэба рабіць скідку на традыцыйна галодны канец зімы. Праўда, толькі гэтым зніжэнне колькасці буйной рагатай жывёлы на 6, а дойных кароў на 5 працэнтаў не растлумачыш. Звычайна спецыялісты будуюць такі ланцужок: падаражала адно, а знікла—другое, не хапае канцэнтратаў — карміць няма чым, травянога корму не стае, бо няма паліва, тэхніка выходзіць са строю і наогул —дажджы. Адсюль вывад: сельскай гаспадарцы патрэбны крэдыты, крэдыты і крэдыты.

Для падмацавання пазіцыі вылучаўся забойны аргумент — інакш будзе галодны бунт, татальная дэстабілізацыя ўсёй эканомікі, не толькі аграрнай яе часткі.

У гэтым сэнсе Дзяржкамстат нічолькі не змяніўся і па-ранейшаму «працуе» на пэўныя колы дзяржаўнай машыны. Заўважце, па калгасах і саўгасах ідзе толькі негатыўная інфармацыя (калі яе перавесці на нармальную мову, то сэнс будзе — калгасы трэба ратаваць), увесь астатні спектр — фермеры, прысядзібныя гаспадаркі — застаецца як бы ў прыцемках. Безумоўна, ратаваць калгасы трэба, хоць бы таму, што іншай сур'ёзнай крыніцы прымусовага атрымання прадуктаў у дзяржавы няма. Яна дагэтуль можа тут пасвіцца больш-менш свабодна. Гаворкі аб самастойнасці і незалежнасці гаворкі і ёсць, пакуль фураж атрымліваецца цэнтралізавана. А калі так, то калектыўная гаспадарка захавае сваё аблічча, дакладней, адсутнасць апошняга.

У такіх умовах калгасы будуць паступова затухаць, іх асноўная ідэя — банкруціцца. Толькі таму, што яна грунтуецца на несвабодзе.

А наогул, сітуацыя унікальная не толькі для калгасаў, а і для дзяржавы. З аднаго боку, мяса-малако патрэбны, а з другога — прадатрад за імі ўжо не пашлеш. Трэба шукаць кампраміс, і разумныя людзі яго знайшлі даўно — матэрыяльны інтарэс. Але на яго патрабуюцца зусім матэрыяльныя грошы, якіх не хапае. Словам, толькі пацягні за нітку—вось ён, клубок праблем.

І ўсё ж нічога страшнага са страшных лічбаў статыстыкі, мне здаецца, не вынікае. Нармальная з'ява: адно знікае, яму на змену прыходзіць нешта іншае. Ведаеце, вялікай праблемай стала купіць парася. Не тое што іх няма, а надта многа жадаючых. Тыя, хто год-два назад сказалі сабе: усё, пайшла яна, гэта гаспадарка, куды далей! — сёлета прыкладаюць неймаверныя намаганні, каб купіць парася, цялушку, казу, на крайні выпадак. Праз другія, трэція, дзесятыя рукі, праз бутэльку, хабар — дабіваюцца, купляюць. Дзіва! Я памятаю час — ледзь не сілком прымушалі браць у калгасе цялушак ці свіней на адкорм. За гэта давалі соткі, сена, грошы плацілі.

Літаральна за вясну народ нарэшце палюбіў зямлю, і гэта перастала быць журналісцкім штампам. У мяне ёсць факты: у многіх раёнах старшыні адмовілі «кіруючай галоўцы» ў сотках. Цяпер усё — на агульных падставах, лафа, як гаворыцца, скончылася. А раней як было добра: калгас аграному пасадзіць, вырасціць і ўбярэ бульбу. Аграному застаецца прадаць яе калгасу ж па максімальнай цане. Зараз аграному рэкамендавана наблізіцца да народа.

Думаю, сёлета не застанецца пустой зямлі—усё будзе засеяна. Таму, напрыклад, мяне не пужаюць тыя факты, што, скажам, дагаворы на продаж дзяржаве жывёлы і птушкі заключаны толькі на 65 працэнтаў, а бульбы—на 34. Калі ад чагосьці адняць, то прыбудзе ў іншым месцы: закон спалучаных сасудаў яшчэ ніхто не абверг.

Зразумела, для прыхільнікаў рынакча-фермерскай канцэпцыі — гэта дрэнны тон, адступленне ад канонаў. Ну, а для нас, грэшных, не абцяжараных многімі ведамі, у якіх, як вядома, многа і смутку, тут бачыцца адзіны шлях пражыць пераходны перыяд. Бо даўно вядома: пераходны перыяд з'яўляецца такім менавіта для нас, а не для тых, хто ім кіруе. Бог ім суддзя. А наша генеральная задача — дажыць да наступнай вясны. Вось і закладваем падмурак будучага ўраджаю. Гарантуем спакойную зіму. І кормім двух-трох небарак, якім сотак не хапіла.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## ЯШЧЭ АДЗІН УНІВЕРСІТЭТ

ГОМЕЛЬ (РІД). Пачаўся набор слухачоў у Духоўны універсітэт маральнасці і культуры, які ў бліжэйшы час адкрываецца ў горадзе. Днямі адбылася арганізацыйная сустрэча выкладчыцкага саставу новай навучальнай установы, абмеркаваны бліжэйшыя і перспектыўныя планы універсітэта, намечаны асноўныя тэмы і напрамкі заняткаў.

Мяркуючы па ўсім, вучоба тут будзе насіць духоўна-свецкі характар, бо да выкладання ва універсітэце прыцягнуты, акрамя свяшчэннаслужыцеляў, педагогі ВНУ горада. Слухачам будуць чытаць гісторыю рэлігіі, Закон Божы, біблейскія сюжэты ў мастацтве і іншыя не зусім прывычныя для слыху дысцыпліны. Праўда, за заняткі, якія будуць праходзіць раз у тыдзень, прыйдзецца плаціць. Мяркуецца, што пры універсітэце для веруючай моладзі будзе арганізавана падрыхтоўка да паступлення ў духоўную семінарыю, і дыплом аб заканчэнні універсітэта стане лепшай рэкамендацыяй для гэтага.

Рэктарам універсітэта выбраны епіскап Гомельскі і Мазырскі Арыстарх.

## РАЧНІКІ СЕЛІ НА МЕЛЬ

**МАЗЫР. Каля 2 млн. рублёў атрымлівала дзяржава ад дзейнасці мясцовага рачнога вакзала. І вось зараз ён спыніў сваю работу — судны перасталі адыходзіць ад прычала. Прычына—шалёны кошт білетаў. Калі летась білет да Турава каштаваў 7 рублёў, то зараз—88. Гэта па тарыфу. А каб рачнікі не неслі страт, людзям трэба заплаціць за білет ажно 210 рублёў. Хто адваліць такую суму за 161 кіламетр адлегласці?**

**Памяшканне рачнога вакзала на пяць гадоў узяла ў арэнду вытворча-камерцыйная фірма «Маком», якая займаецца рознымі відамі паслуг. У Верхне-Дняпроўскім рачным параходстве нам паведамілі, што і рачны вакзал у Гомелі толькі за красавік прынёс 800 тысяч рублёў страт. Рачнікі цяпер абслугоўваюць толькі прыгарадныя маршруты, куды ездзяць дачнікі. І калі раней страты на пасажырскіх маршрутах перакрываліся перавозкамі народнагаспадарчых грузаў, то зараз амаль ніхто з заказчыкаў не можа разлічыцца з рачнікамі—няма грошай. А просьбаў аб выратаванні ніхто не чуе. Калі так пойдзе далей, то не выключана, што можа здарыцца горшае: рачнікі «пойдуць» на дно.**

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

**Адкрыццё першай чаргі аўтаматычнай міжнароднай станцыі адбылося ў Мінску. Ужо ўстаноўлены прамыя сувязі з Варшавай, Лонданам, Берлінам і іншымі гарадамі. З работай станцыі пазнаёміўся Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Ф. Кебіч.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ (БЕЛТА).**

## СУБ'ЕКТЫЎ

## Прадпрымальнікі і ўлада: партнёры ці сапернікі?

**У гэты дзень у Гродна праходзіла сесія абласнога Савета народных дэпутатаў. Абмяркоўваліся пытанні стабілізацыі вытворчасці, паляпшэння захоўвання і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі. А ў памяшканні Палаца тэкстыльшчыкаў, што ў двух кроках ад будынка аблвыканкома, таксама ў дзесяць гадзін раніцы пачалася канферэнцыя прадпрымальнікаў, якія ўваходзяць у прафсаюз «Ліга». У парадку дня — развіццё прадпрымальніцтва ў Гродзенскім рэгіёне, сацыяльная і прававая абарона работнікаў прадпрымальніцкіх структур.**

На першы погляд, у кожнага з гэтых мерапрыемстваў свая спецыфіка. Орган дзяржаўнай улады заклапочаны сваімі праблемамі, прадпрымальнікі— сваімі. Аднак калі ўдумацца... Хіба стабілізацыя вытворчасці, аб якой дбаюць дэпутаты, не залежыць ад эфектыўнасці работы прадпрымальніцкіх структур? Відавочна і тое, што развіццё прадпрымальніцтва, у тым ліку і ў Гродзенскім рэгіёне, знаходзіцца ў прамой залежнасці ад палітыкі органаў дзяржаўнай улады.

Тым больш дзіўна, што ніхто з аблвыканкомаўскіх кіраўнікоў (прадстаўнікі ад гарадскога і раённых выканкомаў прысутнічалі) на канферэнцыю прадпрымальнікаў не прыйшоў. Нягледзячы на тое, што, як паведаміў старшыня «Лігі» Я. Кармільчык, запрашэнні ім накіравалі загадзя.

Але вернемся непасрэдна да канферэнцыі. «Сумны сход» — так была яна ахарактарызавана ў адной з прамоў. І сапраўды, што ні выступленне — то крык роспачы. Прававая база для развіцця прадпрымальніцтва адсутнічае. Грабежніцкія падаткі. Бюракратызм у рабоце дзяржаўных органаў кіравання... У выніку толькі нямногія з зарэгістраваных прадпрымальніцкіх структур займаюцца канкрэтнай дзейнасцю, ды і тыя пад пагрозай развалу.

Госці з гарадскога і раённых выканкомаў у адказ парыравалі, што мы, маўляў, тут, на месцах, законаў не прымаем і ўсе прэтэнзіі лепш адрасаваць Вярхоўнаму Савету рэспублікі. Вось, уласна кажучы, і ўвесь дыялог. Засталося незразумелым, каму скардзіліся прадпрымальнікі і навошта.

Праўда, даволі хутка завяршыўшы дыскусію, удзельнікі канферэнцыі вырашылі накіраваць дэлегацыю для выступлення на сесіі абласнога Савета народных дэпутатаў. І вось сесія заканчваецца. Старшынствуючы прапануе прадаставіць слова кіраўніку «Лігі» Я. Кармільчыку. Чуюцца рэплікі дэпутатаў наконт таго, што гэтага пытання ў парадку дня не было і, наогул, адкуль, маўляў, узялася тая «Ліга», навошта яе слухаць. А між тым у гэты прафсаюз уваходзяць каля шасцідзесяці арганізацый і камукаму, а абласному Савету варта мець аб іх хоць нейкае ўяўленне. Але жаданне супрацоўнічаць, відаць, нулявое.

Я. Кармільчык усё ж выступіў з трыбуны сесіі, пазнаёміўшы дэпутатаў з рэзалюцыяй канферэнцыі. У ёй, у прыватнасці, прадпрымальнікі патрабуюць ад органаў дзяржаўнай улады рэгулярных і падрабязных справаздач аб даходнай і расходнай частцы бюджэту, забеспячэння прадпрыемстваў і арганізацый нарматыўна-інструктыўнымі дакументамі і г. д.

На першы погляд, рэзалюцыя як рэзалюцыя. Але дзіву даешся: няўжо і сапраўды няма ніякіх кантактаў паміж «Лігай» і аблвыканкомам, калі нават для пастаноўкі пытання аб нарматыўна-інструктыўнай дакументацыі (не самая ж гэта невырашальная праблема!) патрабуецца спецыяльная рэзалюцыя? У такім разе ці дойдзе калі-небудзь чарга да сумеснай работы па вырашэнню шматлікіх праблем рэгіёна? Няўжо толькі і застаецца, што чакаць новых выбараў? Але дзе гарантыя, што і пасля іх нешта зменіцца?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## РАДЫЁФАКТ

У Беларусі знаходзіцца дэлегацыя Цэнтральна-еўрапейскай ініцыятывы. Яе прадстаўнікі былі прыняты ў Дзяржэканомплане Рэспублікі Беларусь, Нацыянальным банку, Міністэрстве замежных спраў і Міністэрстве культуры. Абмяркоўвалася пытанне ўступлення Беларусі ў гэтую грамадскую арганізацыю, удзел нашай рэспублікі ў еўрапейскіх праектах, а таксама ўступленне Беларусі ў Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця.

***

**Беларуская праваслаўная царква ўшаноўвае Дзень памяці Святой Ефрасінні Полацкай. Ефрасіння Полацкая — асветніца, апякунка беларускага народа, перапісчыца кніг, настаўніца, педагог, дзеяч культуры, нацыянальнага адраджэння. Галоўныя ўрачыстасці адбываюцца на радзіме Святой — у старажытным Полацку. Там да гэтага часу дзейнічае Спаса-Ефрасіньеўскі жаночы манастыр, заснаваны прападобнай. Тут захавалася нават келля ігуменні Полацкай. Гэты манастыр —месца паломніцтва.**

***

У рэспубліканскай мастацкай галерэі адкрылася персанальная выстаўка Юзэфа Пучынскага і Анатоля Зінчука. Гэта мастакі старэйшага пакалення, прадстаўнікі жывапісных традыцый 50-х і 60-х гадоў. Іх работы вызначае свежасць успрымання, набліжанасць да прыроды.

## ІТАЛЬЯНЦЫ Ў БЕЛАРУСІ

— Кадры — наш галоўны капітал, якім мы паспяхова можам гандляваць на знешнім рынку. Я маю на ўвазе добра адукаваны інжынерны корпус рэспублікі і высокую кваліфікацыю нашых рабочых,— сказаў Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч на сустрэчы з прадстаўнікамі фірм Італіі.

Кіраўнік урада з задавальненнем адзначыў усё большую цікавасць прыватнага замежнага капіталу да прамысловасці Беларусі. І ў гэтым ён бачыць немалую ролю інтэлектуальнага і працоўнага патэнцыялу рэспублікі. Многія краіны Захаду і Усходу, заявіў прэм'ер, гатовы супрацоўнічаць на ўзаемавыгадных асновах з такімі беларускімі прадпрыемствамі, як «Інтэграл», «Гарызонт», мінскія аўтамабільны і трактарны заводы.

В. Кебіч падкрэсліў, што італьянскі крэдыт, хоць ён і дадзены па дзяржаўнай лініі, напоўняць рэальным зместам ад 12 да 14 прыватных фірм. Прычым, разлік за інвестыцыі беларускія партнёры будуць ажыццяўляць толькі гатовай прадукцыяй, збыт якой у трэція краіны італьянцы бяруць на сябе. Кантракты іменна такой накіраванасці падпісаны ўжо з фірмай «Сімод», якая спецыялізуецца на пашыве спартыўнага адзення. На падыходзе дагаворанасці з фірмай «Аграфіна», якая займаецца перапрацоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, кар. БЕЛТА.**

## КУРС ВАЛЮТ

**па стану на раніцу 5 чэрвеня г. г.**
**(першая лічба—скупка, другая—продаж)**

| | Мяняльныя канторы банка «Комплекс» Мінск | Фірма «Aнats» Рыга |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 126—129 | 126—132 |
| Марка ФРГ | 73— 75 | 75— 81 |
| Англійскі фунт | 205—220 | 200—241 |
| Фінская марка | 24— 27 | 25— 30 |
| Шведская крона | 19— 21 | 19,6—22,7 |
| Французскі франк | 21— 23 | 23,3— 24 |
| Галандскі гульдэн | 63— 68 | 61— 73 |
| Канадскі долар | 92—102 | 93—110 |
| Швейцарскі франк | 75— 85 | 75— 89 |
| Італьянская ліра | 0,08—0,10 | 0,08— 0,1 |

## МЭБЛЯ З ТРАКТАРНАГА ЗАВОДА

Два вырабы тавараў шырокага ўжытку, якія выпрабляе Мінскі трактарны завод, будуць прадстаўлены ў «Каталогу мэблі». Каталог хутка будзе выдадзены камерцыйным цэнтрам пры Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па прамысловасці і міжгаліновых вытворчасцях.

Выпуск каталога звязаны з асаблівасцямі работы ва ўмовах пераходу да рынку. Бо сёння ніхто толкам не ведае, дзе і якую мэблю робяць.

## ПАГАДНЕННЕ АДОБРАНА

У Мінску завяршыла двухдзённую работу камісія па разгляду комплексу пытанняў, звязаных з правапераемнасцю ў адносінах да дагавораў, якія маюць узаемную цікавасць, дзяржаўнай уласнасці, дзяржаўных архіваў, даўгоў і актываў былога СССР. Гэта ўжо трэцяе па ліку пасяджэнне камісіі, створанай згодна з рашэннем кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці, 20 сакавіка 1992 года ў Кіеве.

Напомню, што ў ходзе першай сустрэчы, якая праходзіла таксама ў беларускай сталіцы, члены камісіі раздзялілі круг пытанняў правапераемнасці на чатыры блокі: дзяржаўныя архівы, дагаворы, якія маюць узаемную цікавасць для рэспублік Садружнасці, дзяржаўная ўласнасць, а таксама даўгі і актывы былога Саюза.

У Ташкенце камісія распрацавала інфармацыю па гэтых пытаннях, што была прадстаўлена кіраўнікам дзяржаў, якія выказалі жаданне, каб члены камісіі актывізавалі работу ў гэтым напрамку.

І вось праз два тыдні ў Мінску падведзены вынікі работы. Камісія адобрыла пагадненне па пытанню аб правапераемнасці ў адносінах да дзяржаўных архіваў.

Мэта гэтага дакумента — прадастаўленне роўных гарантый суверэнным рэспублікам на стварэнне паўнацэнных архіўных фондаў, абвяшчэнне іх цэласнасці і непадзельнасці, права краін Садружнасці на вяртанне фондаў, якія ўтварыліся на іх тэрыторыі, маюць адносіны да гісторыі данай дзяржавы, але аказаліся ў розны час за яе межамі.

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА каардынатар рабочай групы Саветаў кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў СНД Іван Каратчэня, канчатковае рашэнне аб унясенні праекта дакумента ў парадак дня маючай адбыцца сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў будзе прынята на пасяджэнні рабочай групы паўнамоцных прадстаўнікоў СНД.

Камісія разгледзела таксама праект мемарандуму аб узаемаразуменні па пытаннях аб правапераемнасці ў адносінах да дагавораў, якія маюць узаемную цікавасць для краін-удзельніц Садружнасці. Па просьбе дэлегацый Украіны, Таджы-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

РЫНАК ЯК ЁН ЁСЦЬ

## Бяда адна не ходзіць

На такую думку навяла галоўнага інжынера Гомельскага маторарамонтнага завода Міхаіла Купрыянава тэлеграма з Магілёўскай міжраённай гандлёвай базы. Там скапілася больш двухсот рухавікоў для трактараў МТЗ-50, бо калгасы і саўгасы не купляюць іх: цэны занадта высокія. Лічы, рухавікі больш не патрабуюцца.

Гэта быў не першы такі сігнал для калектыву маторарамонтнікаў, калі ад іх прадукцыі адмаўляліся.

Сёння за той жа рухавік для МТЗ пасля рамонту яго гамяльчане патрабуюць 12.700 рублёў, а за вакуумную станцыю для даення кароў — 28 тысяч. Зусім нядаўна гэтыя цэны адпаведна складалі 400 і 3.500 рублёў.

— Няўжо вы ў выйгрышы ад таго, што гэтак узнялі кошт сваёй прадукцыі? — задаў я пытанне М. Купрыянаву.

І пачуў ад яго наступнае:

— Мы вымушаны рабіць гэта, прычым па мінімуму. Для бязбеднага існавання трэба было б нам узняць цэны на той жа рухавік да 20 тысяч рублёў. Тады мелі б 28 працэнтаў рэнтабельнасці. Яна зараз усяго 18 працэнтаў. Гэта роўна столькі, каб атрымаць зарплату, бо на рахунку прадпрыемства крыху больш нуля, у той час як калгасы і саўгасы не могуць вярнуць нам каля пяці мільёнаў рублёў — у іх няма грошай.

Сакрэт тут просты, нібы цвік. Маторарамонтны завод атрымлівае дзесяткі тысяч дэталей і камплектуючых з Масквы, Кіева, Волагды, Мінска, Гомеля, Бабруйска, Санкт-Пецярбурга і іншых гарадоў краін СНД. Запчасткі з «Гомсельмаша» яму пастаўляюць у 15—20 разоў даражэйшыя, чым раней, і прыслалі ўжо дакумент, што цэны на іх будуць расці. За паўтара месяца ацяпленне з прадпрыемства ўзялі паўтара мільёна рублёў! Поршні яму пастаўляюць за 480, трактарныя гільзы — за 440 пры ранейшых цэнах 8 і 16 рублёў. Купіць тону поліэтыленавай плёнкі за 25 тысяч рублёў — цяпер і гэта шчасце, бо за яе патрабуюць ужо 100 тысяч пры ранейшай цане да трох тысяч рублёў.

А ўзяць участак нестандартызаванага абсталявання. Ён зусім бяздзейнічае, бо нельга дастаць метал патрэбнага профілю. Аб'ём вытворчасці маторнага цэха знізіўся ўдвая, а камбайнавага — амаль на 40 працэнтаў.

У такой вось катастрафічнай сітуацыі аказаўся калектыў, які раней не ведаў вялікіх фінансавых і матэрыяльна-тэхнічных цяжкасцей. Завод «праеў» усе свае грашовыя запасы і цяпер ледзь зводзіць канцы з канцамі. Якім чынам? Зрабіў ужо два скарачэнні рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў у колькасці 70 чалавек (амаль чацвёртую частку персаналу). І, каб неяк выжыць, спрабуе асвойваць новую, неўласцівую для яго профілю вытворчасць тавараў народнага спажывання. У прыватнасці, камплекту для захоўвання сыпкіх прадуктаў — цукру, круп, мукі і інш.

Але і тут яго падпільноўваюць цяжкасці. Для новай прадукцыі патрэбны палімерныя матэрыялы. Набыць іх—цэлая праблема. Ды і цэны, зноўтакі, кусачыя. Ці купяць людзі той камплект з трох прадметаў за сотню рублёў, як намячаюць на прадпрыемстве, — упэўненасці няма. Гэтак жа і з наборамі для ванны і туалета. Дык дзе ж выйсце?

— Шчыра кажучы, — чухае патыліцу Міхаіл Сямёнавіч, — не веру я гэтаму рынку. Ён жа аглобляй глушыць нас. Дзе гэта бачна, каб ад маторарамонтнікаў патрабавалі за камплектуючыя бартэр? Ды які? Тэлевізары, халадзільнікі, пыласосы. Дзе мы іх возьмем? А выйсце бачу ў адным: аднавіць усе сувязі з пастаўшчыкамі на ранейшых умовах і не ўзнімаць цэны на ўсё, а думаць, як зніжаць іх.

Міхаіл Сямёнавіч нагадаў яшчэ адну акалічнасць. У канцы года ўсім нам давядзецца яшчэ раз (а можа і больш) пераканацца, наколькі блізарукая палітыка павышэння цэн. Бо ў канчатковым выніку вырасце кошт сельгаспрадуктаў, без якіх чалавек жыць не зможа.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## УСТАНОЎЛЕНЫ ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ З КАБА-ВЭРДЭ

Намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Астапенка і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Каба-Вэрдэ ў Расіі Луіш Фансека падпісалі 4 чэрвеня пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж дзвюма дзяржавамі.

— Мы ўдзячныя Беларусі за дапамогу ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных кадраў для нацыянальных эканомікі, медыцыны і абароны, — сказаў карэспандэнту БЕЛТА Луіш Фансека. — Падзея, якая толькі што адбылася, расшырыць межы нашых адносін.

— Каба-Вэрдэ — адна з першых афрыканскіх краін, якая падпісала з нашай рэспублікай такі дакумент, — адзначыў Уладзімір Астапенка. — Гэта адкрывае добрыя магчымасці для ўстанаўлення двухбаковых сувязей, развіцця гандлю і асабліва, улічваючы, што гэта рэспубліка з'яўляецца членам Міжнароднай канвенцыі па марскому праву, — супрацоўніцтва ў галіне марскога права.

Намеснік міністра замежных спраў адзначыў таксама, што працэс дыпламатычнага прызнання рэспублікі працягваецца. На сённяшні дзень 49 краін фармальна ўстанавілі з Беларуссю дыпламатычныя адносіны. У Мінску ўжо дзейнічаюць 10 пасольстваў.

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ «БЕЛАРУСЬ У ГЕАПАЛІТЫЦЫ»

**Любая дзяржава ў аснову сваёй знешнепалітычнай дзейнасці павінна ставіць прырошчванне або, прынамсі, недапушчэнне страты ўласнага міжнароднага ўплыву. Стварэнне ўмоў для рэалізацыі гэтага ўплыву складае фундаментальны знешнепалітычны інтарэс.**

**Зыходзячы з гэтых, здавалася б, «акадэмічных» разваг і трэба ацэньваць магчымасці, якія мае Беларусь для рэалізацыі сваіх інтарэсаў на міжнароднай арэне. Выдзелім толькі адзін іх аспект, абстрагуючыся—у сілу абмежаваных памераў артыкула—ад астатніх. Сканцэнтруем увагу на ваенным вымярэнні, ядзерным фактары знешняй палітыкі.**

# ЦІ ЛІШНІ ДЛЯ БЕЛАРУСІ «ЯДЗЕРНЫ ШЧЫТ»?

На тэрыторыі рэспублікі назапашаны ўнушальны ваенны патэнцыял, які перавышае ў прапарцыянальных адносінах адпаведныя паказчыкі Расіі, Украіны, заходнееўрапейскіх краін. З аднаго боку, ядзерны арсенал ператварае тэрыторыю рэспублікі, паводле прынятага ў французскіх стратэгаў выказвання, у «санктуарый», гэта значыць, робіць яе недатыкальнай для нападаў звонку, а з другога — з'яўляецца прадметам заклапочанасці, выкліканай абвостранай «ядзернай алергіяй» пасля чарнобыльскай катастрофы.

Рэспубліка ўзяла курс на тое, каб стаць бяз'ядзернай дзяржавай да сярэдзіны 90-х гадоў. Ці павінен працэс ядзернага раззбраення фарсіравацца?

Тактычная ядзерная зброя, сапраўды, вельмі небяспечная, у сілу сваёй спецыфікі яна можа стаць дэтанатарам ядзернай эскалацыі. Між іншым, згодна з аператыўнымі канцэпцыямі НАТО, «ядзерны парог» можа быць пяройдзены перш за ўсё праз прымяненне гэтага віду ядзерных сродкаў. Ад іх трэба пазбаўляцца як мага хутчэй.

Іншая справа — стратэгічныя ядзерныя сістэмы, прадстаўленыя ў Беларусі мабільна-наземнымі манаблочнымі МБР РС-12М (СС-25 па індэксацыі НАТО). Афіцыяльныя даныя аб іх колькасці ў рэспубліцы ў нас не прыводзяцца. У амерыканскіх крыніцах са спасылкай на Пентагон называецца лічба 72 МБР. Ракеты СС-25, па мерках стратэгічнай стабільнасці, з'яўляюцца найменш дэстабілізуючымі з існуючых МБР, паколькі, па-першае, маюць толькі адну боегалоўку і не служаць у адрозненне ад ракет з раздзельнымі галаўнымі часткамі, «высокапрыярытэтнай цэллю», не правакуюць папераджальны ўдар па іх у крызіснай сітуацыі і, па-другое, валодаюць павышаным выжываннем дзякуючы рухомаму старту. Невыпадкова, дарэчы, перспектыўныя планы скарачэння стратэгічных наступальных узбраенняў (СНУ), да ўзроўню «мінімальнага стрымлівання» прадугледжваюць наяўнасць у канчатковым выніку толькі манаблочных ракет мабільна-наземнага або марскога базіравання. Адміністрацыя ЗША, падымаючы апошнім часам пытанне аб ліквідацыі МБР з раздзельнымі галаўнымі часткамі індывідуальнага навядзення, не настойвае на ліквідацыі ракет СС-25.

На сустрэчы з афіцэрамі, прапаршчыкамі і служачымі Рагачоўскай дывізіі В. Ф. Кебіч заўважыў, што не трэба спяшацца з ліквідацыяй стратэгічных сіл на тэрыторыі Беларусі.

Ва ўсякім выпадку, на перыяд пераходу да бяз'ядзернага статуса гэтыя сілы даюць рэспубліцы «гарантыйны запас» бяспекі. Яны з'яўляюцца не зброяй у прывычным сэнсе слова, а палітычным сродкам, які служыць выключна мэтам стрымлівання. У абстаноўцы нестабільнасці і няпэўнасці на прасторах былога СССР, наяўнасці разнастайных фактараў рызыкі, перад пагрозай магчымых амбіцый далёкіх і блізкіх дзяржаў абмежаваная колькасць неправакуючых надзейных стратэгічных сістэм з'яўляецца, калі выкарыстаць выказванне дырэктара Цэнтра міжнародных зносін Гарвардскага універсітэта Дж. Ная, адной з «лепшых карт у міжнародным покеры».

Нельга ігнараваць і тое, што ў будучым не выключана з'яўленне нечаканых пагроз бяспецы з розных напрамкаў. Мае рацыю вядомы амерыканскі публіцыст Ч. Краўтхамер, які адзначыў, што «некаторыя пагрозы міру XXI стагоддзя сёння такія ж нябачныя, як, скажам, быў нябачны нацызм у 1920 годзе». У стратэгічным планаванні эксперты НАТО сярод іншых варыянтаў заўсёды ўлічваюць і так званы найгоршы сцэнарый развіцця падзей.

Пытанне аб лёсе ядзернага патэнцыялу — адна з балючых тэм у СНД. Асобную пазіцыю заняў Казахстан. Н. Назарбаеў заявіў аб тым, што для знішчэння стратэгічных ядзерных узбраенняў на тэрыторыі Казахстана спатрэбіцца «па меншай меры 15 гадоў». Беларусь і Украіна ўзялі на сябе абавязацельства далучыцца да дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі ў якасці няядзерных дзяржаў. Для іх высоўваецца зусім дакладны напрамак дзеянняў. Разам з тым Беларусь і Украіна дэ-юрэ не з'яўляюцца ядзернымі краінамі, яны хутчэй за ўсё маюць статус дзяржаў, на тэрыторыі якіх размешчана ядзерная зброя. Калі захоўваецца адзінае камандаванне, цэнтралізаванае кіраванне стратэгічнымі ядзернымі сіламі, то паскораны вывад гэтых сіл з Беларусі не патрэбны. Можна правесці ўмоўную аналогію з Германіяй, на тэрыторыі якой размешчана амерыканская ядзерная зброя. Нямецкія палітыкі лічаць, што яна служыць неабходным элементам бяспекі, фактарам недапушчэння, «забароны» агрэсіі.

Не зусім укладваюцца ў рамкі рэалістычнай палітыкі заклікі да іншых еўрапейскіх дзяржаў «пачаць перагаворы аб знішчэнні ядзернай зброі і абвяшчэнні Еўрапейскага кантынента «бяз'ядзернай зонай». Ці будуць цяпер Францыя, Вялікабрытанія, якія мадэрнізуюць свае ядзерныя патэнцыялы і прымаюць на ўзбраенне новыя сістэмы з павышанай дальнасцю і дакладнасцю дастаўкі боегаловак, весці перагаворы аб «бяз'ядзернай Еўропе»? Адказ відавочны. Не менш адназначны выбар на карысць падтрымкі эфекту ядзернага стрымлівання зрабілі і ЗША. Такім чынам, бяз'ядзерны свет — высакародная мэта, узвышаны ідэал. Падтрымка такой лініі, бадай, апраўдана ў маральна-палітычным плане. Але наўрад ці мэтазгодна ставіць перад сабой завышаныя, невыканальныя задачы. Няма неабходнасці ісці шляхам дыпламатыі былога СССР, нярэдка вылучаўшай грандыёзныя планы раззбраення, якія ўражвалі заходніх партнёраў хіба што сваёй прапагандысцкай адглянцаванасцю і бязмежным утапізмам. Уяўляецца справядлівай думка аўтарытэтных амерыканскіх спецыялістаў — членаў Гарвардскай даследчай групы па ядзерных праблемах аб тым, што «ядзерная цнатлівасць чалавецтва, аднойчы страчаная, не можа быць зноў набыта».

Больш зручным, мяркуючы па ўсім, было б прызнанне на бліжэйшую і сярэднюю перспектыву стабілізуючага значэння стратэгічнай ядзернай зброі (пры ліквідацыі тактычнай) і падтрымка канцэпцыі «мінімальнага стрымлівання». Нямала карыснага можна было б запазычыць з ваеннай дактрыны і ядзернай стратэгіі Францыі, якая афіцыяльна арыентуецца на такое стрымліванне.

Пэўныя сумненні ўзнікаюць і з нагоды заяўленай мэты стаць Беларусі нейтральнай дзяржавай. Усходнееўрапейскія краіны, ды і Расійская Федэрацыя выказваюцца за тое, каб у перспектыве ў той ці іншай форме далучыцца да НАТО — арганізацыі, якая прадэманстравала зайздросную жыццяздольнасць, паспяхова адаптавалася да новай абстаноўкі. Не выключана, што еўрапейскія структуры бяспекі ў ваеннай сферы будуць будавацца на базе трансфармаваных натаўскіх механізмаў. Характэрна, што кіраўніцтва НАТО адводзіць блоку ролю «галоўнай апорнай канструкцыі еўрапейскай архітэктуры бяспекі». У такім кантэксце няўдзел Беларусі ў будучым у структурах супрацоўніцтва і падтрымання ваеннай стабільнасці, ствараемых пад эгідай НАТО, наўрад ці будзе апраўданым.

Нейтральны статус прадугледжвае не толькі няўдзел у ваенных блоках, але і накладае сур'ёзныя абмежаванні ў выбары курсу і партнёраў на міжнароднай арэне. Швейцарыя не дае сабе магчымасці ўступіць нават у ААН.

Статус нейтралітэту дапускае, а то і мае на ўвазе наяўнасць моцнай незалежнай абароны, магутных узброеных сіл. Тая ж Швейцарыя па ступені ўзброенасці на адзінку тэрыторыі пераўзыходзіць такія краіны, як Англія і Францыя.

Відаць, сілы агульнага прызначэння, якія паглынаюць асноўную частку ваеннага бюджэту (у ЗША, напрыклад, на стратэгічныя ядзерныя сілы выдаткоўваецца толькі 15 працэнтаў усіх ваенных асігнаванняў), у Беларусі можна было б радыкальна скараціць да ўзроўню 50—60 тысяч чалавек, а то і больш. Лічба 90, якая называецца апошнім часам, ніяк не аргументуецца, не суправаджаецца абгрунтаваннем прыярытэтаў нацыянальнай бяспекі. Утрыманне буйных звычайных узброеных сіл не павінна класціся непасільным цяжарам на бюджэт рэспублікі, і так абцяжараны расходамі на ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай трагедыі. Ваенныя расходы, напэўна, можна было б істотна скарэкціраваць у бок змяншэння, калі прытрымлівацца лініі на калектыўнае захаванне бяспекі ў рамках СНД і НБСЕ.

Стаўшы паўнапраўным удзельнікам працэсу НБСЕ, Беларусь будзе задзейнічана ў перагаворах па далейшаму скарачэнню звычайных узброеных сіл і ўзбраенняў у Еўропе, па мерах давер'я. Відавочна, задача новага тура венскіх перагавораў павінна заключацца ў тым, каб знізіць узроўні ўзбраенняў ужо не кааліцый, а ўсіх краін-удзельніц індывідуальна да межаў «абарончай дастатковасці».

У інтарэсах высвятлення пытанняў бяспекі і стабільнасці, вызначэння палітычна і навукова абгрунтаванай пазіцыі Беларусі ў гэтай галіне, ды і ў цэлым у сферы знешняй палітыкі, дарэчы было б стварыць Цэнтр міжнародных і стратэгічных даследаванняў (скажам, пры Белдзяржуніверсітэце).

На наш погляд, трэба імкнуцца да фарміравання ў рэспубліцы самастойнай школы знешнепалітычнай і стратэгічнай думкі, якая не ішла б у фарватэры ідэй і канцэпцый, вылучаных іншымі, а прадуцыравала ўласныя канцэптуальныя падыходы.

Думаю, «Звязда» сваёй палемікай па гэтай праблеме паспрые выпрацоўцы такіх падыходаў.

**Анатоль РАЗАНАЎ,**
**доктар гістарычных навук.**



**Выпускніцы мінскага медвучылішча Ірыне ДОЎГАЙ пашанцавала: пасля заканчэння вучобы яна трапіла працаваць у буйную медыцынскую ўстанову з дружным калектывам.**

**Мінскі дыягнастычны цэнтр мае самае сучаснае абсталяванне вытворчасці вядомых замежных фірм.**

**Ірына асвоіла спецыяльнасць аператара камп'ютэрнага тамографа.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# Да 2000 года, магчыма, усе школы Мінска стануць беларускімі

**Старшыня камісіі Мінскага гарадскога Савета па адукацыі Вольга Аляксандраўна КУЗЬМІЧ — аб праблемах беларусізацыі сталічных навучальных устаноў.**

**— Агульнапрызнана: Закон аб мовах у Беларусі працуе не так, як хацелася б. Датычыць гэта і сістэмы нацыянальнай адукацыі. У чым, на вашу думку, прычыны марудлівасці і непаслядоўнасці?**

— Яшчэ зусім нядаўна можна было адчуць і неразуменне, і супраціўленне з боку работнікаў адукацыі ў тым, што датычылася выканання Закона аб мовах. Памятаю, у жніўні, на адной з традыцыйных нарад настаўнікаў і дырэктараў школ, мяне вельмі ўразіла і абурыла рэакцыя прысутных на выступленне ў падтрымку нацыянальнай школы начальніка аддзела ГУНА А. В. Фраловай. Увесь час у зале былі шум, пярэчанні, выкрыкі з месца. Рэакцыйна была настроена большасць прысутных дырэктараў школ і да майго выступлення. Вось калі адгукнулася тое, што дырэктары звычайна прызначаліся на пасады райкомамі партыі, выконвалі іх загады. Ды і адкуль ім мець нацыянальную свядомасць і разуменне, калі ўсё жыццё былі ўпэўнены, што слова беларускае, намаганні па беларусізацыі — гэта нацыяналізм? Адмоўнае стаўленне ідзе ад неразумення, нежадання гэта ведаць, адсутнасці палітычнай культуры, асабліва па пытаннях беларускага адраджэння. Менавіта таму наша камісія вырашыла перыядычна праводзіць невялікія канферэнцыі, дзе пакрыху знаёміць дырэктараў школ з гісторыяй нацыянальнага руху, культурнага адраджэння.

У нас дырэктары прывыклі, што даецца разнарадка: выканаць так і так. Закон увялі, а яны, здаецца, чакаюць канкрэтных указанняў і нават баяцца: а раптам нешта зменіцца? Здзіўляе гэты страх, што можа вярнуцца ўсё былое. Побач з нацыянальнай сімволікай раптам суседнічаюць старыя лозунгі і заклікі.

Адбіваюцца і цяжкасці з кадрамі. Асабліва не хапае настаўнікаў у першых класах, недастаткова іх і ў 2—4 класах.

Зараз у нас у гарадскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў праводзяцца курсы беларускай мовы для педагогаў: настаўнікі здаюць экзамены, залікі, пішуць дыктанты. Гэта абавязковыя курсы для настаўнікаў, дырэктараў, адміністрацыі. Без пасведчання аб перападрыхтоўцы ніхто да працы не будзе дапушчаны. Улічваючы, што ў нас будзе скарачацца колькасць гадзін на рускую мову, і для таго, каб людзі не засталіся беспрацоўнымі, ГІУН стварае факультэт па перапрафіляванню настаўнікаў на іншую спецыялізацыю. Настаўнікам, якія маюць нейкія сумежныя спецыялізацыі, пасля перападрыхтоўкі даецца права выкладаць у беларускіх класах.

**— Ці можна падвесці некаторыя вынікі беларусізацыі навучальных устаноў?**

— Паводле папярэдніх звестак, атрыманых ад ГУНА, у 1992 навучальным годзе мяркуецца перавод на беларускую мову 24 агульнаадукацыйных школ, 2 школ-інтэрнатаў, санаторна-лясной школы. Ужо дзейнічаюць 34 беларускамоўныя школы, 6 гімназій і 2 ліцэі.

Акрамя таго, 6 школ-новабудоўляў, згодна з Законам аб адукацыі, павінны быць беларускімі. Ёсць школы ў Заводскім і Фрунзенскім раёнах, якія рыхтуюцца стаць беларускімі па-за планам.

Усяго ў нас у наступным годзе будзе дзесьці каля 60 беларускіх школ. Хаця, калі параўнаць з Гомелем, дзе гарвыканком прыняў рашэнне аб пераводзе адразу 47 школ на беларускую мову навучання, — то Мінск, мабыць, мог бы ісці крышачку шпарчэй. Хоць да 2000 года, магчыма, усе школы Мінска будуць беларускімі.

Іншая справа, што цяпер праблема бачыцца ў тым, каб рабіць усё гэта якасна, каб школу не толькі назвалі беларускай і вялі заняткі па-беларуску. Трэба беларускія школы і адпаведна аформіць, і зрабіць так, каб выкладанне там вялося не па запалітызаваных падручніках.

Вельмі добра, што ў большасці раёнаў у нас ужо ёсць школы новага тыпу — гімназіі і ліцэі. Яны ў асноўным беларускамоўныя. Хочацца адзначыць у першую чаргу гуманітарны ліцэй, створаны пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры. Для ліцэя ўдалося не без цяжкасцей адваяваць будынак завочнага факультэта вышэйшай партыйнай школы. На гэты ліцэй я ўскладаю вялікія надзеі, паколькі ён ужо сёння ставіць сваёй мэтай высакаякасную падрыхтоўку нацыянальных кадраў. Ліцэй мае дамоўленасць аб залічэнні па выніках выпускных экзаменаў у некаторыя ВНУ. А сярод выпускнікоў ёсць нават такія, што пакінулі звычайныя школы, дзе яны былі прэтэндэнтамі на залатыя і сярэбраныя медалі. Са школы, дзе я выкладаю, перайшлі тры лепшыя вучаніцы. У ліцэі працуюць даволі вядомыя ў рэспубліцы людзі М. Ткачоў, Л. Баршчэўскі, А. Сідарэвіч. Але пачатак беларусізацыі павінен весціся ад дзіцячых садкоў. У нас ёсць многа дзіцячых устаноў, дзе створаны беларускія групы, ці цалкам садкі перайшлі на беларускую мову. Загадчыца дзіцячага садка № 56 трактарнага завода, наш дэпутат В. Ярашэнка самастойна ўвесь садок перавяла на беларускую мову навучання і выхавання.

**— А якая сітуацыя ў ВНУ?**

— Калі чэсна, то я баюся, што ВНУ не будуць гатовы прыняць нашых дзяцей з беларускай мовай навучання. Зараз мы правяраем ВНУ, і я бачу, што многія нават не хочуць слухаць пра беларусізацыю. Самае дзіўнае, што тыя з іх, якія павінны быць ініцыятарамі беларускага адраджэння, якраз не падаюць прыкладу,— у прыватнасці, інстытут культуры. А вось тэхналагічны інстытут усім задае тон, бо ў першую чаргу свядомую і дзяржаўную пазіцыю, паважаючы Закон, займае рэктар інстытута І. Жарскі.

**— Вы сталі дэпутатам у час развалу таталітарнай сістэмы. Вашы адносіны да меркавання некаторых беларускіх дэмакратаў, якія лічаць, што камуністы ніколі не падтрымлівалі нацыянальнага адраджэння, а беларускую мову вывучалі з кар'ерысцкіх меркаванняў або для самазахавання?**

— Тое, што КПСС душыла ўсё нацыянальнае, — ні для каго не сакрэт. Беларусь была ў ліку першых, хто ішоў да зліцця ўсіх нацый і народнасцей. Па тым часе намаганні ў бок беларускасці лічыліся праявай нацыяналізму.

Хаця апошнія два гады камуністы, адказныя кіраўнікі ўсё ж пачалі нешта рабіць у гэтым напрамку. Я хачу адзначыць Фрунзенскі раён, дзе, дзякуючы аднаму з тагачасных партыйных сакратароў (М. Сушу), быў створаны цэнтр па прапагандзе беларускай культуры — адзіны ў горадзе. Але я лічу, што пагроза сёння зыходзіць нават не з боку былых камуністаў, а ад іншых партый, што як грыбы пасля дажджу растуць зараз у рэспубліцы, але яны не зацікаўлены ў нацыянальным адраджэнні. Пад лозунгамі аб свабодзе, уласнасці не трэба рабіць кар'еру за кошт беларускага народа, адпрэчваючы яго мову і культуру.

**Гутарыла**
**Святлана АЗАРЭВІЧ,**
**студэнтка факультэта журналістыкі БДУ.**

ПЫТАЛЬНІК!

## УСЁ НАВОКАЛ КАЛГАСНАЕ...

**— У калгасе мне выдзелілі жарабя для гадоўлі. Але пры гэтым папярэдзілі, што як толькі яно спатрэбіцца калгасу, яго забяруць. Ці маю я права бясплатна пакінуць жывёліну ў сябе або выкупіць на льготных умовах з улікам майго працоўнага ўкладу ў калгасе?**

**І. РОЛІЧ.**

**Міёрскі раён.**

Артыкулам 93 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь устаноўлена, што калгасы карыстаюцца і распараджаюцца належачай ім на праве ўласнасці маёмасцю ў адпаведнасці з іх статутамі. Значыць, жарабя, атрыманае Іванам Васільевічам Ролічам з калгаса для гадоўлі, таксама застаецца ўласнасцю калгаса. І пытанне аб перадачы або продажы яго можа вырашыць у даным выпадку толькі сам калгас, у прыватнасці — яго праўленне, агульны сход.

## ПРАВА НА ЛЬГОТЫ МАЮЦЬ НЕ ЎСЕ

**— У 1987 годзе я прымала ўдзел у работах па жыццезабеспячэнню насельніцтва ў зоне першачарговага адсялення ў сувязі з катастрофай на ЧАЭС. Ці належыць мне матэрыяльная дапамога на аздараўленне ў размеры двухразовай сумы мінімальнай зарплаты і ці маю я права на атрыманне дадатковага адпачынку працягласцю 14 каляндарных дзён з захаваннем заработнай платы?**

**Л. ГАНЖАРА,**

**г. Магілёў.**

**У артыкуле 20 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на ЧАЭС»** ад 11 снежня 1991 года пералічаны льготы, устаноўленыя для грамадзян, якія прымалі ў 1986-87 гг. удзел у работах па дэзактывацыі, будаўніцтву, жыццезабеспячэнню насельніцтва ў зонах першачарговага і далейшага адсялення, уключаючы ваеннаслужачых, прызваных на спецыяльныя зборы і прыцягнутых да выканання гэтых работ.

Там запісана, што асобам, якія прымалі ўдзел у такіх работах у зоне першачарговага адсялення ў 1986 годзе, штогод выплачваецца матэрыяльная дапамога на аздараўленне ў размеры двухразовай мінімальнай зарплаты. На жаль, на асоб, якія прымалі ўдзел у такіх работах у 1987 годзе, ільгота не распаўсюджваецца. Не распаўсюджваецца на аўтара ліста і льгота на атрыманне штогадовага дадатковага адпачынку з захаваннем зарплаты, устаноўленая пунктам 12 артыкула 18 таго ж Закона. Такая льгота прадугледжана для асоб, якія прымалі ў 1986-87 гг. удзел у работах па ліквідацыі вынікаў аварыі ў межах зоны эвакуацыі, а не ў межах зоны першачарговага і далейшага адсяленняў. А вось ільготу па адпачынку ў зручны для яе час аўтар ліста мае.

## Скідка за квартплату для інвалідаў

**— Ведаю, што ў Законе Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь» запісана, што інвалідам прадастаўляюцца льготы па аплаце жылля і камунальных паслуг. Адкажыце, калі ласка, каму з інвалідаў прадастаўлена гэта льгота.**

**А. ВЕРАМЕЙЧЫК.**

**г. Мінск.**

**Я інвалід працы трэцяй групы. Звяртаўся за адказам на пытанне ў ЖБК і ніяк не магу дабіцца толку. Хацелася б атрымаць уяўленне аб тых ільготах, якія прадастаўляюцца інвалідам па аплаце жылля.**

**К. БАНДАРЭНКА.**

**г. Брэст.**

Ільготы па аплаце жыллёвай плошчы і камунальных паслуг прадастаўляюцца інвалідам Айчыннай вайны, людзям, інваліднасць якіх наступіла ў выніку працоўнага калецтва, тым, хто стаў інвалідам у выніку агульнага захворвання і па іншых прычынах (за выключэннем асоб, інваліднасць якіх наступіла з-за проціпраўных дзеянняў), але пры ўмове, што гэтыя інваліды з'яўляюцца: ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны, непаўналетнімі вязнямі фашысцкіх канцлагераў, грамадзянамі, якія працавалі ў перыяд блакады Ленінграда на прадпрыемствах і ў арганізацыях горада і ўзнагароджаны медалём «За абарону Ленінграда» або знакам «Жыхару блакаднага Ленінграда».

Ільготы прадугледжаны таксама Законам РБ «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС». Гэта асобы, у якіх заўважана і ўстаноўлена прычынная сувязь набытай інваліднасці з чарнобыльскай аварыяй.

Адзінокія і тыя, што пражываюць з мужам (жонкай) інвалідамі Вялікай Айчыннай вайны 1-й і 2-й групы, ад платы за жыллёвую плошчу вызваляюцца поўнасцю. Пры гэтым лішкавая жылплошча (да 15 кв. метраў) аплачваецца ў адзінарным размеры.

Жылая плошча, якую займаюць названыя вышэй інваліды, аплачваецца ў размеры 50 працэнтаў кватэрнай платы, а лішкавая (да 15 кв. метраў) — у адзінарным размеры. Ім таксама прадастаўляецца скідка ў размеры 50 працэнтаў ад устаноўленай платы за карыстанне ацяпленнем, газам і электраэнергіяй, водаправодам.

## «Я быў «остарбайтэрам»...

**— У час вайны я быў вывезены на прымусовыя работы ў Германію ў якасці «остарбайтэра» — «усходняга рабочага». Як цяпер вырашаецца пытанне аб выплаце кампенсацый такім вязням фашызму? І другое: ці можна мне выехаць на месца, дзе я працаваў у фашыстаў?**

**І. ЛОСЬ.**

**Жабінкаўскі раён.**

На сённяшні дзень пакуль што мае сілу **пастанова Савета Міністраў СССР ад 6 кастрычніка 1989 года «Аб прадастаўленні льгот былым непаўналетнім вязням фашысцкіх канцлагераў».**

Гэта пастанова датычыцца толькі малалетніх вязняў канцлагераў. На іх распаўсюджаны многія з цяперашніх ільгот, устаноўленых для ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Але грашовая кампенсацыя за час знаходжання ў канцлагерах не прадугледжана.

Пытаннем грашовай кампенсацыі прымусовай працы «остарбайтэраў» займаецца зараз арганізацыя «Мемарыял». Таму рэкамендуем вам звярнуцца на адрас: **125319, г. Масква, а/скр. 2, «Мемарыял», праграма «Усходнія рабочыя».**

Пытанні выезду былых «ўсходніх рабочых» на месцы, дзе яны падвяргаліся прымусовым работам, заканадаўствам не рэгулююцца.

## За апаленае вайной дзяцінства

**Мінулая вайна не абышла і мяне: непаўналетняй трапіла ў канцлагер і толькі цудам засталася ў жывых. Хацелася б ведаць, ці маю я права на нейкія льготы?**

**Ю. КОТ.**

**г. Старыя Дарогі.**

**Пісьмы з такім пытаннем рэдакцыя атрымлівае і ад іншых чытачоў — былых непаўналетніх вязняў ваеннага часу.**

Думаецца, адказ **старшыні Старадарожскага раённага Савета народных дэпутатаў Т. РАМАНОЎСКАЙ** будзе цікавым і іх задаволіць:

— Згодна з адпаведным заканадаўчым дакументам, гэтым людзям такія льготы прадугледжаны, і іх, дарэчы, нямала. Гэта перш-наперш 50-працэнтная скідка з кошту праезду адзін раз у год (туды і назад) па чыгунцы, а ў раёнах, дзе яе няма, водным, паветраным ці міжгароднім аўтамабільным транспартам. Праўда, па жаданню пасажыра замест паездкі з 50-працэнтнай скідкай туды і назад прадастаўляецца бясплатны праезд па чыгунцы ў адным напрамку.

Яны маюць таксама права на атрыманне пазыкі на індывідуальнае будаўніцтва.

Варта мець на ўвазе, што вылічэнне працэнтаў за карыстанне пазыкай, выдадзенай на індывідуальнае ці кааператыўнае будаўніцтва і капітальны рамонт дамоў, якія ім належаць, не робіцца.

Гэтыя людзі могуць атрымліваць чарговы штогадовы водпуск у зручны для іх час, а таксама браць дадатковы адпачынак раз у год без захавання заработнай платы тэрмінам да двух тыдняў.

Пры выхадзе на пенсію яны карыстаюцца паліклінікамі, да якіх былі прымацаваны ў перыяд работы.

Пераважнае права яны маюць на забеспячэнне па месцы работы пуцёўкамі ў санаторыі, прафілакторыі і дамы адпачынку, а таксама на ўступленне ў садаводчыя таварыствы (кааператывы), на ўстаноўку тэлефона.

Ёсць і такія льготы: 50-працэнтная скідка з кошту лекаў, набытых па рэцэптах урачоў, і беспрацэнтная пазыка членам садаводчых таварыстваў на набыццё ці будаўніцтва садовых домікаў і на добраўпарадкаванне зямельных участкаў.

А вось права на льготны выраб і рамонт зубных пратэзаў, пастаноўку на льготную чаргу на набыццё легкавога аўтамабіля заканадаўствам гэтай катэгорыі насельніцтва не прадугледжана.

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# НІ РАБОТЫ, НІ ВАЛЮТЫ

**ЧАМУ БЕЛАРУСКІЯ БУДАЎНІЧЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ АДХІЛЕНЫ АД БУДАЎНІЦТВА ЖЫЛЛЯ І ІНШЫХ САЦЫЯЛЬНЫХ АБ'ЕКТАЎ ДЛЯ ВАЙСКОЎЦАЎ НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ?**

**З гэтага пытання і пачалася гутарка карэспандэнта «Звязды» з намеснікам генеральнага дырэктара аб'яднання «Гроднажылбуд» В. СУРНІНЫМ.**

— Рашэнне аб будаўніцтве аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры для вайскоўцаў, — адказвае Валерый Андрэевіч,— прымалася на міжурадавым узроўні паміж былым СССР і Германіяй. Невядома па якіх меркаваннях, але адной з абавязковых умоў для заключэння падрадчага дагавора з будаўнічай арганізацыяй саюзнае міністэрства абароны вылучыла наяўнасць вопыту работы за мяжой. Аднак практычна аніводная айчынная фірма такога вопыту не мела. Такім чынам, яны адразу выкідваліся з конкурсу на атрыманне выгадных заказаў.

Пасля таго, як СССР спыніў сваё існаванне, усе пытанні, звязаныя з будаўніцтвам ваенных гарадкоў, перайшлі ў кампетэнцыю рэспублікі. Але спачатку, на мой погляд, наш урад проста выпусціў з-пад увагі адну важную праблему. Не падумалі аб тым, што калі ўвесь падрад атрымаюць замежныя фірмы, дык рэспубліка пазбаўляецца валюты, якую выдзяляе на гэта будаўніцтва Германія. Па-другое, наўрад ці хто прадбачыў тое становішча, у якім сёння апынуліся будаўнікі рэспублікі ў сувязі з лібералізацыяй цэн. Возьмем для прыкладу наша аб'яднанне. Неплацежаздольнасць многіх заказчыкаў прывяла да таго, што колькасць заказаў на будаўніцтва рэзка скарацілася. Калі нічога не зменіцца, дык хутка амаль палавіна нашых магутнасцей можа апынуцца без работы. І вось у такой крытычнай сітуацыі, калі будаўнічая галіна рэспублікі знаходзіцца на мяжы поўнага развалу, заказы на будаўніцтва сацыяльных аб'ектаў для вайскоўцаў у Слоніме і Лідзе перадаюцца... турэцкім і літоўскім фірмам. Аб'ём фінансавання па гэтых пляцоўках складае 374 мільёны марак.

Звярніце ўвагу на наступнае. Маючы валюту і дзякуючы штучна заніжанаму курсу рубля ў адносінах да долара, туркі скупляюць нашу мясцовую сыравіну для будаўніцтва літаральна за бясцэнак. Ведаю, напрыклад, што тону цэменту яны нядаўна набывалі за 35 долараў, у той час як за мяжой за яе давялося б выкласці не менш 220 долараў. Але ў нашага аб'яднання ўвогуле няма валюты, і таму ваўкавыскім цэментнікам выгадней гандляваць з туркамі. Па гэтай прычыне, дарэчы, мы ў мінулым годзе не атрымалі пяць тысяч тон цэменту і наш завод некалькі дзён прастойваў.

Далей. Тая ж турэцкая фірма «Энка», якая будуе ў Слоніме, атрымала проста фантастычныя льготы. Яна вызвалена ад падаткаў на дабаўленую вартасць, сацыяльнае страхаванне і іншых. Ад яе, у адрозненне ад нашых прадпрыемстваў, не патрабуюць абавязковага продажу 30 працэнтаў валютнай выручкі дзяржаве па цвёрдаму курсу.

**— Аднак, Валерый Андрэевіч, ці зможа аб'яднанне «Гроднажылбуд» дастойна канкурыраваць з той жа «Энкай» у пытаннях якасці і тэрмінаў правядзення будаўнічых работ?**

— Калі «Энка» бярэ ў свой састаў 1.400 беларускіх рабочых і яны адпавядаюць неабходным патрабаванням, дык няўжо не працавалі б як трэба і нашы будаўнічыя арганізацыі ў цэлым? Спецыялісты нашага аб'яднання маюць патрэбную кваліфікацыю. Але не хочацца заплюшчваць вочы і на нашы праблемы. Першая — нізкая якасць сталярных вырабаў, аддзелачных матэрыялаў. І таму, калі б нам даверылі будаўніцтва ваенных гарадкоў, частку камплектуючых давялося б закупіць за мяжой. Але ж і турэцкая фірма іх атрымлівае не бясплатна. І другая прычына. Вы, напэўна, чулі выказванне наконт таго, што кіраўнікі ў нас робяць выгляд, што плацяць рабочым, а тыя ў сваю чаргу робяць выгляд, што працуюць. Турэцкі рабочы, працуючы сёння ў Беларусі, атрымлівае прыкладна 800 долараў у месяц. Нават калі б мы плацілі не 800, а 400 долараў, для людзей гэта было б нядрэнным стымулам і мы, я ўпэўнены, ні ў чым не ўступілі б туркам.

Крыўдна, што ў нашай рэспубліцы не давяраюць сваім будаўнікам. Дарэчы, ва ўсім свеце, калі замежная фірма бярэ падрад, абавязкова агаворваецца аб'ём работ, які перадаецца мясцовым прадпрыемствам. Нашы ўлады ад вырашэння гэтых праблем самаўхіліліся. У Лідзе, напрыклад, жыллё і іншыя сацыяльныя аб'екты для вайскоўцаў дару чылі будаваць літоўцам. Прычым на стадыі заключэння кантракту беларускіх будаўнікоў у разлік увогуле не бралі. Мы, вядома, не хавалі свайго абурэння і пачалі змагацца за свае правы. Улады таксама нарэшце зразумелі, што тут не да жартаў. Ледзь удалося прымусіць літоўцаў пайсці на супрацоўніцтва з беларускімі будаўнікамі.

**— Што і казаць, слабае суцяшэнне, паколькі і асноўныя заказы, і практычна ўся валюта дасталіся замежным фірмам. Які ж сэнс махаць кулакамі пасля бойкі...**

— У нашага аб'яднання яшчэ застаецца, магчыма, адзіны шанц. Цяпер разам з адной германскай фірмай мы працуем над атрыманнем заказа на будаўніцтва пасёлка для вайскоўцаў у г. п. Рось Ваўкавыскага раёна. Аднак, мяркуючы па ўсім, справы складваюцца на карысць турэцкай фірмы, якая цяпер працуе ў Слоніме. Менавіта ў яе інтарэсах па ініцыятыве Дзяржбуда рэспублікі адкладваюцца тэрміны заключэння неабходных пагадненняў. Пры гэтым кіраўніцтва «Энкі» не хавае, што гэта як найлепш адпавядае іх планам пераводу базы са Слоніма ў Рось.

Альтэрнатыўны варыянт праекта, які прадугледжвае прамую адпаведнасць турэцкай тэхналогіі, узгадняецца ўпраўленнем па будаўніцтву і архітэктуры Гродзенскага аблвыканкома і накіроўваецца Дзяржбудам па ўзгодненасці з Саўмінам рэспублікі заказчыку як асноўнае патрабаванне з пункту гледжання канцэпцыі забудовы гэтай пляцоўкі. Між тым у гэтым варыянце прапануецца значна горшая ў параўнанні з нашым буйнапанельным домам серыі «90» якасць жылля. Напрыклад, сярэдняя агульная плошча кватэр будзе на 17 працэнтаў меншай, чым у 90-й серыі. Не гаворачы ўжо аб іншых недахопах— меншая кухня, значна меншыя падсобныя памяшканні... Дзіўна, што менавіта гэтаму аддаецца перавага. Нягледзячы на тое, што будаўнічыя арганізацыі Гродзеншчыны гарантуюць, што тэрміны выканання ўсіх работ парушаны не будуць.

**Гутарку вёў**
**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# РОЗГАЛАС

## ...І ПАЙШЛА «ЭНКА» НА ЗАКАНАДАЎСТВА

**Як вядома, адміністрацыя турэцкай фірмы «Энка», што вядзе будаўніцтва гарадка ў Слоніме, нядаўна зрабіла масавае звальненне наёмных работнікаў — грамадзян нашай рэспублікі. Рабочыя патрабавалі ад фірмы захавання працоўнага заканадаўства і тэхнікі бяспекі.**

Прэзідыум савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі разгледзеў пытанне, звязанае з канфліктам паміж наёмнымі рабочымі і адміністрацыяй замежнай фірмы. Устаноўлена, што пры заключэнні кантрактаў з грамадзянамі турэцкі бок парушае працоўнае заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Так, кантракт прадугледжвае рабочы тыдзень у 48 рабочых гадзін, што супярэчыць КЗаПу. Працягласць адпачынку за год для работнікаў усіх пасад—20 дзён; няма дыферэнцыраванага падыходу да аплаты за звышурочныя работы. Выяўлены і іншыя адхіленні ад патрабаванняў КЗаПа Рэспублікі Беларусь.

Прэзідыум савета ФПБ выказаў пратэст у сувязі з грубымі парушэннямі правоў грамадзян. У адрас урада рэспублікі накіравана пісьмо з патрабаваннямі прыцягнуць праваахоўныя органы да разгляду канфлікту. Улічваючы, што пры рыначнай эканоміцы практыка наёмнай працы праз заключэнне работнікамі кантрактаў з замежнымі фірмамі атрымае шырокае распаўсюджванне, прафсаюзы прапануюць выпрацаваць формы кантролю за забеспячэннем абароны працоўных правоў грамадзян Рэспублікі Беларусь пры заключэнні імі дагавораў (кантрактаў) з замежнымі юрыдычнымі асобамі.

**Галіна АКУЛАВА,**
**заг. прэс-цэнтра савета ФПБ.**

## КАЛІ П'ЯНЫ, ТО ГЛЯДЗІ Ў СВАЕ КІШЭНІ

**Менавіта такую параду хацелася б даць аматарам добра выпіць і прагуляцца па свежым паветры, гойдаючыся ў розныя бакі праспекта. «Сервіс» цяпер у міліцэйскім выцвярэзніку абыходзіцца ў даволі круглую суму — 250 рублёў за ноч. Дарэчы, трохпакаёвы нумар гасцініцы «Планета» — «люкс-апартаменты» — каштуе толькі ўдвая больш — 500 «драўляных».**

**І ўсё ж статыстыка сведчыць: падпітыя выбіраюць не другое, а першае: толькі за некалькі дзён майскіх свят, напрыклад, у медвыцвярэзніку пры Маскоўскім РАУС «адпачыла» каля 70 чалавек.**

**Амер ДЖАМАЛЬ.**

Малюнак Е. БУЛАВЫ.

## ПАГАДНЕННЕ АДОБРАНА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

кістана і Малдовы вырашана перанесці разгляд гэтага пытання на наступнае пасяджэнне.

Адбылася дыскусія ўдзельнікаў пасяджэння па пытаннях дзяржаўнай уласнасці, даўгоў і актываў былога СССР. Абмеркаванне гэтых праблем будзе прадоўжана на наступным пасяджэнні камісіі, якое адбудзецца 1—2 ліпеня ў беларускай сталіцы.

**Ларыса ЛАЗАР,**
**кар. БЕЛТА.**

## Пазіцыя кааліцыі

МІНСК. **(Леанід Астапенка, кар. БелаПАН).** 4 чэрвеня адбылася другая рабочая сустрэча аб'яднанай Рады кааліцыі трох партый: НДПБ, БХДЗ, БПС (кааліцыя НХС — нацыяналы, хрысціяне, сяляне).

На сустрэчы былі абмеркаваны сумесныя мерапрыемствы: з'езд беззямельных (які чакаецца 20 чэрвеня) і чарговая канферэнцыя «Дэмакратыя і незалежнасць», што будзе праходзіць у Маскве акурат у гадавіну путчу — 19 жніўня. Удзельнікі сустрэчы аднадушна выказаліся за немагчымасць аднаўлення камуністычных арганізацый у любым выглядзе, а ў асобнай рэзалюцыі выказалі свой пратэст супраць рэгістрацыі партыі камуністаў Беларусі.

Кааліцыя выказала сваю заклапочанасць палітыкай дэстабілізацыі дэмакратычных сіл, якую апошнім часам праводзіць БНФ. Аб'яднанне новых палітычных сіл, такіх, як НХС, набірае моц і, хутчэй за ўсё, у бліжэйшы час будзе сур'ёзнай альтэрнатывай БНФ.

# На Русі стала больш багатых і шмат жабракоў

Гэтага старога я бачу амаль кожны дзень у двары свайго дома. Ідзе ён, згорблены, паволі, спераду бяжыць любімы сабака. Ідзе і праклінае жыццё:

— Сам галодны, і цябе няма чым карміць (гэта да сабакі).

Потым стары накіроўваецца да вялізнага кантэйнера са смеццем і доўга нешта там шукае...

Такіх старых у Расіі сёння, прынамсі ў Маскве, не так ужо і мала. Гляджу на маскоўскія вуліцы — моцна прыбыло аўтамабіляў замежных марак. Гляджу ў падземныя пераходы — прыбыло ў некалькі разоў і жабракоў. Не, я не за ўсеагульную роўнасць бальшавіцкага ўзору. Я нават не супраць багатых. Я супраць таго, каб узрастала колькасць бедных. Я супраць капіталізму дамарксавай эпохі. Баюся, каб зноў у ацчаі не ўзняўся яго магільшчык і не зрабіў з расійскай гісторыяй чарговае харакіры.

Кажуць, Масква — яшчэ не ўся Расія. Прынамсі так я падумаў, калі неяк разгаварыўся з калегай. Паехала яна аднойчы ў камандзіроўку ў горад Мантурава Калужскай вобласці. Зусім выпадкова пачула, што ў нейкай вёсцы пад назвай Паломы адна жанчына памерла з голаду. Не верылася.

Пайшла журналістка ў хлебную краму і спытала ў прадаўшчыцы наконт смерці з голаду. Тая толькі галаву апусціла. Журналістка аказалася чалавекам няўрымслівым і вырашыла паехаць у вёску Паломы. Ведала, што з пустымі рукамі ехаць туды нельга. А хлеб у краме — па картках. І гэта ў раённым цэнтры... Прадаўшчыца, нармальная жанчына з чалавечым сэрцам, усё ж прадала ёй чатыры боханы хлеба.

Калі журналістка прыехала ў Паломы, яе сустрэлі адзінаццаць састарэлых жыхароў і шэсць сабак. Раздзяліла яна хлеб на ўсіх пароўну (а ён, як аказалася, не завозіўся сюды амаль паўгода). Адна старая вінавата спытала:

— Дачушка, а солі ты выпадкова не прывезла?

— А што, у вас і солі няма?

— Год ужо не прывозілі.

Аказалася, яшчэ не так даўно ў гэтых мясцінах існаваў калгас. Галадранец, вядома, але часам помніў пра тыя вёскі, якія ў яго ўваходзілі. Цяпер калгас распусцілі і забыліся аб ім. Забылася мясцовае начальства і аб людзях, якія, аднак, яшчэ жывуць у былых калгасных вёсках. Туды не ходзіць транспарт, няма добрай дарогі.

Ніхто сёння не ведае, колькі такіх Паломаў налічваецца ва ўсёй Расіі. І колькі людзей з забытых вёсак памерлі ў мінулую зіму з голаду. І колькі з іх пераЖыве будучую зіму.

Падставы для такіх невясёлых думак ёсць. Вельмі трывожную інфармацыю паведаміла нядаўна прэса: толькі са студзеня па красавік пагалоўе буйной рагатай жывёлы ў грамадскім статку Расіі зменшылася на 2 мільёны 800 тысяч галоў.

Тут бачацца дзве прычыны. Першая — ялавічына стала своеасаблівымі «грашыма» ў зносінах паміж гарадам і вёскай. Хочаш здабыць што-небудзь з тэхнікі, запчастак і г. д. — давай узамен мяса. Прыходзіцца весці жывёлу пад нож. Усё, што патрэбна для сяла, стала страшна дарагім. Па-другое — усеагульная бяскорміца. Гінуць дзесяткі, сотні тысяч маладняку з-за падзяжу. Нават дылетант у сельскай гаспадарцы ведае, колькі патрэбна гадоў для аднаўлення статка. Не хочацца думаць пра голад, які чакае нас будучай зімой. Але...

Як тут не правесці паралель. Толькі зусім нядаўна мы даведаліся аб колькасці памёршых з голаду людзей у СССР у 30-я гады. А іх сучаснікі жылі сабе тады, славілі ў песнях «бацьку Сталіна» і нават не здагадваліся аб вялікай трагедыі. Можа, пройдзе 20—30 гадоў, зноў будзе нейкая новая «перабудова» і зноў тады ўсплывуць на паверхню жудасныя лічбы, у якіх будзе адлюстравана і памёршая з голаду жыхарка невялікай вёскі Кастрамской вобласці.

Не хацелася б згушчаць фарбы. Адно толькі ведаю: лепшыя часы наступяць не вельмі хутка. Урад жа Расіі абяцаў спачатку паляпшэнне ў канцы гэтага года, а нядаўна перанёс яго на год наступны. Толькі адкуль узяцца таму паляпшэнню? З неба? Заўсёды думаю пра гэта, калі пад вечар наведваю магазіны. Хоць шаром пакаці.

Трывожныя навіны прыходзяць не толькі з расійскіх вёсак. З гарадоў таксама. Напрыклад, у апошні год натуральны прырост насельніцтва Новасібірска скараціўся ў пяць разоў. На свет з'явілася на дзве тысячы немаўлят менш. Разам з тым колькасць зарэгістраваных смерцяў на некалькі соцень павялічылася.

Тая ж тэндэнцыя назіраецца ва ўсёй Расіі. Згодна з афіцыяльнай статыстыкай, за два першыя месяцы гэтага года ў рэспубліцы нарадзілася на 34.563 дзіцяці менш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. А смяротнасць узрасла на 20.684 чалавекі. За два месяцы колькасць жыхароў Расіі натуральным чынам скарацілася на 21.156 чалавек.

Яшчэ горш выглядае статыстыка ненатуральнай смяротнасці. Дастаткова сказаць, што на сённяшні дзень у Расіі налічваецца каля 14.000 людзей, прапаўшых без вестак. У моргах — 7,5 тысячы неапазнаных нябожчыкаў.

Сёння ў Расіі жыць вельмі цяжка. Паміраць таксама цяжка. Звычайнае пахаванне каштуе 10.000 рублёў. Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне нядаўна паказала сюжэт пра 85-гадовую старую, якая жыве... у царкве. Блізкія проста выгналі яе з дому.

— Ты хутка памрэш,— сказалі ёй дамачадцы.— А толькі адна труна каштуе 2.000 рублёў (у 20 разоў даражэй, чым год назад).

Выпадкі, калі родныя не забіраюць нябожчыкаў з моргаў, сёння ў Расіі вельмі распаўсюджаны.

Урад стаў на шлях «шокавай тэрапіі». Магчыма, штосьці ў гэтым ёсць слушнае, калі гавораць пра людзей здаровых, працаздольных. Пара ўжо больш і лепш працаваць, каб набыць усё патрэбнае для жыцця. І не «забіваць казла цэлымі днямі», што я па-ранейшаму бачу ў сваім двары. Толькі як пераЖыць гэтую «тэрапію» пенсіянерам, інвалідам, тым, хто сваё ўжо даўно адрабіў? Дзе яшчэ можна знайсці ў цывілізаваным свеце краіну з такой сацыяльнай безабароннасцю?

**Міхаіл БАЦЯН,**
**уласны карэспандэнт «Звязды» ў Маскве.**

## Сто гадоў — не мяжа

Не так часта такое здараецца. І тым прыемней паведаміць, што ў Пінску толькі што адзначыў сваю 103-ю гадавіну Дзмітрый Іванавіч Герасімчук. Нялёгкі лёс напаткаў доўгажыхара. Колькі сябе памятае, працаваў не складаючы рук—адных калодзежаў на сялянскіх падворках пабудаваў некалькі соцень. Валодае шмат якімі іншымі рамёствамі. З жонкай Марыяй Якаўлеўнай, якая толькі два гады не дацягнула да стагадовага юбілею, вырасцілі дзвюх дачок і двух сыноў.

Дзмітрый Іванавіч ніколі не курыў, не злоўжываў алкаголем, да 80-ці гадоў не звяртаўся да ўрачоў.

## Выратавальнікі...

**Нягледзячы на тое, што сёлета яшчэ не пачаўся сапраўднаму купальны сезон, вада, на жаль, пачала ўжо збіраць свае ахвяры. Так, у Бярэзіне ўтапіўся першакласнік 31-й сярэдняй школы Бабруйска. Як стала вядома, выратавальную службу выклікалі на месца здарэння ў 15.30, а вадалазы прыехалі ажно пасля 17-ці гадзін. Ды і то пошукі іх былі кароткатэрміновымі — неўзабаве скончыўся кісларод у балонах, і ім давялося выбірацца з вады, а ў маторках тым часам скончылася паліва. Падобныя «аператыўнасць» і «аснашчанасць» выратавальнай службы можа каштаваць вельмі дорага.**

## СЁМУХА НА ГАРЫ СІНАЙ

**Яўрэйскі народ адзначае сёння вялікае свята — Шавуот. Яно адзначаецца кожны год 6-га чысла месяца сівана (гэта чэрвень). Мае таксама і іншыя назвы: Свята ўраджаю (Хаг акацыр), Свята даравання Торы (Хаг матан атора).**

Сімвалізуе атрыманне народам Ізраіля Торы (свяшчэннага пісання) на гары Сінай. Свята прымеркавана таксама да пачатку збору ўраджаю. Адзначаецца яно праз сем тыдняў пасля Вялікадня, адсюль і «шавуот» — 7 тыдняў. У Ізраілі гэта нерабочы дзень, няма заняткаў у школах. Святочныя цырымоніі, прысвечаныя збору ўраджаю, наладжваюцца ў асноўным у кібуцах і машавах. У сінагогах адбываюцца службы з нагоды атрымання Торы. У гэты дзень прынята насіць белае адзенне і есці ўсё малочнае.

## ТАРЫФ ДЛЯ ЧУЖАЗЕМЦАЎ,

### АБО ЯК СУСТРАКАЮЦЬ ГАСЦЕЙ У ГРОДЗЕНСКІМ ГАРАДСКІМ ПАРКУ

Вырашылі мы ў нядзелю з дачкой адпачыць у парку. Ну, а там, вядома, не маглі абмінуць атракцыёны. Каля касы даволі вялікая чарга. Хвілін праз дзесяць набліжаемся да акенца. Над ім—таблічка, з якой можна даведацца, колькі каштуе тая ці іншая забава. Вось вам інфармацыя для роздуму.

### РЭПЛІКА

Аказваецца, існуюць два тарыфы. Адзін—для жыхароў нашай рэспублікі. Другі—для чужаземцаў. Кліенты першай катэгорыі могуць карыстацца атракцыёнам у сярэднім за 3—5 рублёў. Што датычыцца наведвальнікаў парку, аднесеных да другой катэгорыі, дык ім тут з пяцёркай няма чаго рабіць.

Але дзе ж яны, гэтыя чужаземцы? Перш чым разабрацца з гэтым пытаннем, некалькі слоў пра тое, што ўяўляюць сабой атракцыёны ў Гродзенскім парку. Можа, наведвальнікам прапануюць апошні «крык» атракцыённай моды, які нідзе ў свеце, акрамя як тут, нельга і ўбачыць? Вымушаны расчараваць аматараў вострых адчуванняў. У парку вы сустрэнеце традыцыйны для многіх месц масавага адпачынку набор атракцыёнаў, добра знаёмы калі не дзядам, дык бацькам сённяшняй дзятвы. Аўтадром, паветраныя каруселі, «Сонейка»...

У такой сітуацыі спадзявацца на масавы наплыў замежных турыстаў у Гродзенскі гарадскі парк сама меней наіўна. Калі хто і не абміне гродзенскія атракцыёны, дык гэта, магчыма, госці з іншых рэспублік былога СССР (язык не паварочваецца назваць іх чужаземцамі). Але тут перад распрацоўшчыкамі тарыфнай сістэмы паўстае праблема: як іх адрозніць ад жыхароў Рэспублікі Беларусь?

І яшчэ. У якой, скажыце, цывілізаванай краіне за карыстанне тым жа атракцыёнам з замежнага госця запатрабуюць падвоены тарыф? І ці не амаральна рабіць на гэтым нейкі бізнес?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# Выбары—без канца?

Бадай, ніхто з жыхароў Аэрафлоцкай выбарчай акругі № 20 г. Мінска ўжо не скажа дакладна, колькі разоў праводзіліся «паўторныя» выбары дэпутата ў Вярхоўны Савет РБ — шэсць альбо сем. І вось у мінулую нядзелю адбыліся чарговыя. У іх прыняла ўдзел «рэкордная» колькасць выбаршчыкаў — ажно 6,5 працэнта.

Не падумайце, што я іранізую. Наадварот, гатова зняць капялюш перад палітычнай сумленнасцю тых, хто аддаў перавагу не ўласнаму агароду, а выбарчаму ўчастку. І гэта нягледзячы на тое, што ўжо сабрана столькі подпісаў у падтрымку рэферэндуму, — аптымісты нават не сумняваюцца ў яго станоўчых (за роспуск цяперашняга саставу ВС) выніках: маўляў, гэта справа некалькіх месяцаў. Людзі прыйшлі, нягледзячы і на перакананасць пераважнай большасці песімістаў: няма чаго марнаваць каштоўны веснавы час на ўдзел у палітычных гульнях сумніцельнай якасці.

...На выбарчым участку № 25, што размясціўся ў памяшканні НДІ аграхіміі і глебазнаўства, азартна гулялі... у більярд. Старшыня ўчастковай камісіі Сяргей Яфімавіч Галаваты разгублена паціснуў плячамі:

— А што, сапраўды, рабіць, выбаршчыкаў жа няма? Тым больш, у памяшканні холадна, мы ўжо замерзлі...

На 13 гадзін прагаласавала ўсяго 70 чалавек (з больш чым дзвюх тысяч!). За паўгадзіны, што я правяла на ўчастку, не прыйшоў ніводзін выбаршчык.

— Вы б чулі, што людзі гавораць, атрымліваючы бюлетэні, — ледзь ці не матам крычаць: «Грошы, патрачаныя на гэтую фікцыю, лепш на народную карысць пусцілі б!..»

— А вялікія гэта сродкі — ну хоць бы канкрэтна па вашаму ўчастку? — пытаюся.

— Задзейнічаны тры машыны, па 80 рублёў выдзелена работнікам на абеды (вядома, паабяцана і па адгулу), дадайце афармленне, электраэнергію і г. д. Але справа, увогуле, нават і не ў грашах. Такімі выбарамі мы падрываем саму выбарчую сістэму: ёй ужо не вераць.

Пытанне, якое мяне надзвычай зацікавіла, — ці не з'яўляецца зараз кандыдат у дэпутаты чымсьці накшталт «вясельнага генерала»? Далькова Людміла Пятроўна, беспрацоўная, раней была эканамістам у Беларускім НДІ эканамічных праблем АПК. Кандыдат ад Сялянскай партыі. Пунктам 1 яе праграмы запісана: «Спрыяць аб'яднанню намаганняў і ўзаемадзеянню выбраных дэпутатаў усіх узроўняў у вырашэнні надзённых праблем».

Пункт 2 праграмы яшчэ больш «канкрэтны» і «арыгінальны». Мяркуйце самі: «У сувязі з разгулам беззаконня і безадказнасці ўзмацніць дэпутацкі і грамадскі кантроль за гандлёва-размеркавальнымі органамі з прыцягненнем вінаватых да жорсткай адказнасці» і г. д. Што сказаць, калі гаварыць няма чаго...

Перш чым прагаласаваць, гутару па тэлефоне з Дальковай — цікаўлюся, між іншым, ці не шкада ёй самой дзяржаўных сродкаў (вынікі галасавання яна, у прынцыпе, магла прадказаць загадзя):

— А не шкада было сродкаў на папярэднія шэсць выбараў? — гучыць у адказ як выклік. — Вам што, далі заданне задаваць правакацыйныя пытанні?!

З жахам думаю: няўжо ВС не адменіць далейшыя выбарчыя гульні, няўжо парламентарыі так перакана751ны, што ад 2—3 новых дэпутатаў карэнным чынам палепшыцца якасць работы парламента!

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

**ВЫБАРШЧЫКІ МІНСКА! Шырэй вывучайце непераможную тэорыю ўсходніх адзінаборстваў, глыбей авалодвайце практыкай каратэ, кун-фу, кік-боксінга! Братэрскае прывітанне ўсім кааператарам, якія арганізавалі безліч спартыўных секцый і спаборніцтваў! Пад сцягам малога бізнесу наперад да новай выбарчай кампаніі!**

**Шчыра кажучы, гэты бязглузды лозунг прыдумаў я сам. Але —пад уплывам стэнда інфармацыі для выбаршчыкаў ля сталічнага ЦУМа. На жаль, ТАКІХ стэндаў з ТАКОЙ «інфармацыяй» у горадзе шмат.**

**А можа гэта новыя метады барацьбы ў выбарчай кампаніі?!**

**Я. ПЯСЕЦКІ.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

## РАДЫЁ «СВАБОДА»

*** Прэс-цэнтр Паўночнага флота выказаў занепакоенасць марской актыўнасцю НАТО ў раёнах Баранцава мора і Кольскага паўвострава. У заяве прэс-цэнтра адзначаецца, што толькі на мінулым тыдні ў Баранцавым моры паблізу тэрытарыяльных вод Расіі здзейснілі палёты разведвальныя самалёты Вялікабрытаніі, былі выяўлены дзве падводныя лодкі — хутчэй за ўсё, амерыканскія, тут вядуць разведку ваенна-марскія судны Нарвегіі і Францыі. У заяве падкрэсліваецца, што ў гэтых раёнах Баранцава мора размешчаны палігоны баявой вучобы Паўночнага флота і праходзяць важныя камунікацыі.**

* Вярхоўны Савет Расіі ратыфікаваў пагадненне паміж урадамі Расійскай Федэрацыі і ЗША, якое дазваляе, у прыватнасці, прадставіць амерыканскія ўрадавыя гарантыі кампаніям, якія будуць укладваць свае капіталы ў Расіі. Гэта пагадненне было падпісана ў Вашынгтоне 3 красавіка.

*** Лідэры шэрагу краін — Садружнасці Незалежных Дзяржаў звярнуліся да прадстаўнікоў турэцкіх дзелавых колаў з заклікам павялічыць капіталаўкладанні ў эканоміку гэтых рэспублік і аказаць ім садзейнічанне ў стварэнні рынкавай эканомікі. Выступаючы на міжнародным эканамічным кангрэсе ў турэцкім горадзе Ізміры, прэм'ер-міністр Малдовы Мураўскі ўказаў на наяўнасць сур'ёзнага патэнцыялу для заключэння шырокамаштабных эканамічных пагадненняў паміж Турцыяй і Малдовай. Прэм'ер-міністр Азербайджана Гусейнаў, намеснік прэзідэнта Кыргызстана Кулаў, кіраўнік Нахічэванскай рэспублікі Аліеў таксама прымаюць удзел у рабоце кангрэса.**

* Прэзідэнт Польшчы Лех Валенса заклікаў парламент краіны неадкладна адправіць у адстаўку прэм'ер-міністра Яна Альшэўскага.

*** Міністр замежных спраў Італіі выказаў занепакоенасць у тым, што баі ў Югаславіі могуць перарасці ў сапраўдную вайну на Балканскім паўвостраве. Ён прапанаваў дапамогу сваёй краіны ў любой міжнароднай аперацыі супраць Сербіі, выключыўшы, аднак, магчымасць ваеннай інтэрвенцыі. Улады Грэцыі тым часам пачалі расследаваць абставіны інцыдэнта, у ходзе якога грэчаскія і сербскія аўтацыстэрны перасеклі граніцу Югаславіі, парушыўшы гэтым міжнароднае эмбарга, накладзенае Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый.**

## «БІ-БІ-СІ»

* Генеральны сакратар НАТО Манфрэд Вёрнер сказаў, што канфлікты, падобныя карабахскаму, малдаўскаму ці югаслаўскаму, уяўляюць сабой прамы выклік справе міру і бяспекі на кантыненце. Калі Паўночна-атлантычны саюз не хоча быць над гэтымі падзеямі, яму неабходна унесці свой уклад у тое, каб захаваць стабільнасць ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, заявіў Вёрнер.

*** Сталі вядомы канчатковыя вынікі выбараў у Федэральную скупшчыну Югаславіі, якая цяпер складаецца з Сербіі і Чарнагорыі. Згодна гэтым вынікам, сацыялістычная партыя прэзідэнта Мілошавіча атрымала большасць галасоў і заваявала 73 са 138 дэпутацкіх месцаў. Большасць апазіцыйных партый байкаціравалі выбары на той падставе, што ў іх не было доступу да афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі.**

* Вярхоўны суд Літвы пачаў расследаванне мяркуемых сувязей былога прэм'ер-міністра краіны Казімеры Прунскене з камітэтам дзяржаўнай бяспекі былога СССР. Гэта робіцца па патрабаванню адной з камісій Вярхоўнага Савета суверэннай Літвы.

*** Венгрыя наклала забарону на экспарт і імпарт любых сербскіх і чарнагорскіх тавараў у адпаведнасці з санкцыямі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Будзе аднак працягвацца рух пасажырскіх цягнікоў паміж краінамі, дазваляцца ўвоз і вываз харчавання і медыкаментаў. Венгрыя, праз якую праходзяць асноўныя шляхі зносін з Сербіяй і Чарнагорыяй, натуральна, пацерпіць ад гэтых санкцый. Эксперты лічаць, што краіна страціць сёлета не менш 130 мільёнаў долараў.**

* Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын аб'явіў аб планах стварэння пагранічных войск і кантрольна-прапускных пунктаў на граніцах з пяццю былымі саюзнымі рэспублікамі. Пагранічнікі будуць падпарадкоўвацца міністэрству нацыянальнай бяспекі і дзейнічаць на граніцах з Латвіяй, Літвой, Эстоніяй, Азербайджанам і Украінай. З Грузіяй будуць устаноўлены таможныя пасты.

## «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

*** Сацыял-дэмакратычная апазіцыя рэзка крытыкавала ўрад ФРГ за аднаўленне паставак нямецкай зброі Турцыі. Дэпутаты апазіцыі заяўляюць, што Турцыя не адчувае ніякай пагрозы звонку. Наадварот, яна сама абяцае ваенную дапамогу некаторым краінам, у прыватнасці, Албаніі. Паводле звестак міністэрства замежных спраў ФРГ, Турцыя запэўніла, што пастаўляемая Германіяй зброя будзе выкарыстана ў адпаведнасці з дагаворамі НАТО.**

* Ізраільскаму пісьменніку Амасу Озу ў гэтым годзе будзе прысуджана прэмія міру нямецкага кнігагандлю. Такім чынам будуць адзначаны заслугі гэтага выдатнага сучаснага ізраільскага пісьменніка і аднаго з самых актыўных членаў руху за мір у Ізраілі.

*** У Цірасполі затрыманы румынскі палітычны дзеяч Іле Іленску. Яму прад'яўлена абвінавачванне ў тым, што ён узначальваў адну з узброеных груп тэрарыстаў, якая дзейнічала ў Прыднястроўі.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

# ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### ЦІ БУДЗЕ ЕЛЬЦЫН НОБЕЛЕЎСКІМ ЛАЎРЭАТАМ!

На ўрачыстым сходзе Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук, што прайшоў у Калоннай зале Дома саюзаў у Маскве і быў прысвечаны 90-годдзю Нобелеўскіх прэмій, прадстаўнікі Нобелеўскага камітэта абвясцілі аб уключэнні ў лік кандыдатаў на атрыманне гэтай самай прэстыжнай прэміі свету за 1992 год прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына.

### ЗЛАЧЫНСТВА І ПАКАРАННЕ

**Маці памёршага ў бальніцы горада Міньяра Чэлябінскай вобласці чатырохгадовага хлопчыка прызналася, што прычынай цяжкіх траўмаў было жорсткае збіванне дзіцяці сужыцелем жанчыны нейкім Рыжовым... Двое дзяцей чатырох і васьмі гадоў засталіся зачыненымі дома і, прагаладаўшыся, дасталі хлеб, пасыпалі яго цукрам і пачаставаліся. Калі вярнуліся дарослыя і селі разам з дзецьмі за стол, Рыжоў заўважыў рассыпаныя драбкі цукру і накінуўся на хлопчыка...**

### КАЛІ КОЖНЫ Ў ДЗЯРЖАВЫ АДСУДЗІЦЬ ПА МІЛЬЁНУ...

Майстар Наватрубнага завода А. Сумцоў з Першауральска займеў шанц адразу стаць мільянерам, прычым на самых законных падставах. Нядаўна гарадскі суд прыняў рашэнне спагнаць на яго карысць з фінансавага аддзела першауральскай адміністрацыі 1 мільён 313 тысяч рублёў. У мінулым годзе ў Сумцова ўгналі новую аўтамашыну «Волга». Не дапамаглі ні замкі, ні сцены кааператыўнага гаража, ні процiўгоннае прыстасаванне. Ні ўгоншчыкаў, ні машыны міліцыя так і не знайшла, таму першауралец падаў у суд на дзяржаву... Калі абласны суд пацвердзіць рашэнне гарадской Феміды, Сумцоў атрымае вышэйназваную суму. А гэта будзе азначаць прэцэдэнт, які стане пачаткам вялікай колькасці аналагічных іскаў.

# Фільмы тыдня

**● «ВЯДЗЬМАРКА» ● «АСАБЛІВА ВАЖНАЯ ПЕРСОНА» ● «ГУРУ» ● «ПРЫГАЖУНЯ»**

**Новая каляровая мастацкая кінастужка «ВЯДЗЬМАРКА» створана кінематаграфістамі Кіеўскай кінастудыі імя А. Даўжэнкі. Аўтар сцэнарыя — Багдан Жолдак, рэжысёр-пастаноўшчык — Галіна Шыгаева.**

**Гэта карціна ўзнаўляе ўкраінскую літаратурную класіку — «Канатопскую вядзьмарку» Г. Квіткі-Аснаўяненкі.**

**Нацыянальны каларыт і гумар, відовішчнасць музычнай камедыі, казачнасць фабулы і метафарычнасць вобразаў вызначаюць гэты незвычайны фільм.**

**Галоўныя ролі выконваюць Багдан Бянюк, Леў Пярфілаў, Галіна Каўганіч і іншыя.**

**Выкліча цікавасць таксама каляровая мастацкая кінастужка «АСАБЛІВА ВАЖНАЯ ПЕРСОНА» сумеснай вытворчасці Польшчы, Францыі і Бельгіі. Пастаноўку карціны па свайму сцэнарыю ажыццявіў рэжысёр Юліуш Махульскі. Папярэднія яго работы — «Па-банку», «Па-банку-II» ці «Удар у адказ», «Новыя амазонкі», «Дэжа вю» дазваляюць спадзявацца, што і новая карціна рэжысёра, не менш захапляючая і дынамічная, будзе высока ацэнена гледачамі.**

**У цэнтры апавядання — гісторыя кахання маладога кампазітара і велікасвецкай дамы, жонкі адной уплывовай персоны. Муж здагадваецца аб адносінах кампазітара і сваёй жонкі, але робіць усё, каб не адпусціць яе. І вось аднойчы ў невялікім кінатэатры Парыжа знаходзяць труп асабістага вадзіцеля гэтай персоны...**

**У галоўных ролях здымаліся Войцех Малайкат, Поль Бержэ, Ліза Махульская і іншыя акцёры.**

**Кінамайстры Індыі перадаюць на суд гледачоў новую каляровую двухсерыйную мастацкую кінастужку «ГУРУ». Аўтар сцэнарыя — Р. Кейхан, рэжысёр — М. Умеш. Фільм насычаны шматлікімі прыгодамі галоўных герояў, сцэнамі сутычак і пагонь, небяспечнымі сітуацыямі ў логаве наркамафіі.**

**...У час перастрэлкі з бандытамі гіне сумленны паліцэйскі, бацька юнака Гуру. Сын клянецца адпомсціць за смерць бацькі. Гуру вырашае ісці служыць у паліцыю. Аднак герою не шанцуе — ён адразу пасварыўся з буйным паліцэйскім чыноўнікам, хабарнікам і бюракратам.**

**У адчаі Гуру пагружаецца ў п'янства і трапляе на службу да мафіі. Там ён сустракае Уму, прастытутку і спявачку, якая вельмі падобна на яго нявесту. Юнак быў здзіўлены, даведаўшыся, што Ума працуе на паліцыю і таксама помсціць за гібель свайго бацькі...**

**У галоўнай ролі зняўся цудоўны індыйскі акцёр Мітхун Чакраборці — яркая зорка сучаснага кінематографа.**

**У кінатэатрах і клубах будзе паказвацца каляровая амерыканская мастацкая кінастужка «ПРЫГАЖУНЯ». Яна была прызнана лепшай меладрамай Галівуда апошняга часу і чэмпіёнам касавых збораў. Несумненна, фільм у вялікай ступені абавязаны сваім поспехам на Захадзе непаўторнай рабоце акцёраў Джуліі Робертс і Рычарда Гіра, якія прадэманстравалі свету сваё цудоўнае майстэрства і талент. Менавіта дзякуючы ўдзелу ў стужцы гэтых акцёраў гісторыя, расказаная нам, выглядае такой пераканаўчай і жыццёвай, па заходніх, натуральна, мерках.**

**А сюжэт фільма вельмі нетыповы. Мяркуйце самі.**

**Нейкі мільянер, прыгажун-мужчына, які скуплівае і прадае вялікія кампаніі, аднойчы апынуўся ў незнаёмай частцы горада. Дамоў яму дапамагла дабрацца прыгожая маладая жанчына, як высвятляецца, пачынаючая прастытутка. Нягледзячы на гэта, паміж героямі ўспыхвае самае сапраўднае каханне...**

## З ЛАДАГІ Ў БЕЛАВЕЖСКУЮ ПУШЧУ

КАМЯНЕЦ **(Ю. Фёдарава).** У Белавежскім краі адразу стала больш на 1000 гусей. Аднак гусі гэтыя не дзікія, а свойскія. Новую галіну стварае калгас імя Кірава, закупіўшы птушку ў «краі белых начэй», на Ленінградскай птушкафабрыцы.

У калгасе ўпэўнены ў поспеху: калі на лясных азёрах Белавежскай пушчы жывуць дзікія гусі, то чаму ў больш камфортных умовах не жыць свойскім?

## АКАЗВАЕЦЦА, ЯШЧЭ ТАНЦУЕМ

У Брэсце прайшоў міжрэгіянальны конкурс бальнага танца. У ім прынялі ўдзел юныя танцоры з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Харкава, Варонежа, Чэлябінска, іншых гарадоў краін Садружнасці, у тым ліку і Беларусі.

**У. МАКАРЭВІЧ.**

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ
## СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**«Пагоня».** Газета ў газеце. **«Абзац і «60 секунд».**

Працяг размовы. **«Думка на розных мовах».**

Думкі ўслых. **«Няроўнасць мундзірам не прыкрыць».**

Пісьмо ў рэдакцыю. **«Лепш ужо быць эмігрантам».**

**«Нарадзіўся на Палессі, уславіў край вулканаў».** Да 230-годдзя з дня нараджэння мемуарыста, удзельніка вызваленчага руху Юзафа Капоця.

**«У надзеі на тэлерантнасць?»** Справы царкоўныя.

Галерэя «СБ». **«Два пісьмы на тэму культуры».**

Футбол. Сяргей Алейнікаў: **«Не будзем гадаць на кафейнай гушчы».**

Рэклама. Аб'явы.

## ЗАГАДЫ АДДАЕ... БАБУЛЯ

Радавы Андрэй Шкіндарук, які прызываўся Брэсцкім РВК восенню мінулага года і праходзіў службу ў Слуцку, падаўся ва ўцёкі. Відаць, адлегласць ад Брэста да гэтага райцэнтра Мінскай вобласці здалася яму вялікай.

Блуднага ўнука адлавіла —хто б вы думалі?—бабуля. Прывезла ў часць і паставіла перад камандзірам. Але не мінула і двух дзён, як радавы зноў уцёк з часці. Сігналаў ад бабулі пакуль што не паступала.

Радавы Сяргей Долгі з гэтай жа часці, які прызываўся з Бабруйска і трапіў у Слуцк, таксама знік у невядомым напрамку. Вось і шукаюць іх цяпер бацькі-камандзіры, прычым за свой кошт, паколькі камандзіровачныя са сціплага бюджэту часці цяжка выдзеліць на пошукі ўцекачоў.

**У. ЦАСЮК.**

